*—Людзьмі звацца!*
*Янка Купала*

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
8
ЛЮТАГА
1991 г.
№ 6 (3572)
ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.
КОШТ — 15 кап.
(Па падпісцы — 10 кап.)


## ЧЫТАЙЦЕ





# ШЛЯХ У БЯСКОНЦАСЦЬ ЖЫЦЦЯ

*На Мележавай дарозе—70*

**Іван Мележ.**

Іван Паўлавіч Мележ.

Ён мог бы быць сёння яшчэ сярод нас: семдзесят гадоў — гэта не так ужо і многа. Мы маглі б бачыць яго, бачыць ягоную добрую ўсмешку, усмешку не паблажлівую, а ўсмешку чалавека, якому вядома пра жыццё наша і нас саміх нешта значна большае, чым нам, і ад таго ён адчувае нібы нейкую вінаватасць перад намі; маглі б чуць ягоны голас, чуць ягонае слова, слова не катэгарычнае, а раздумнае, глыбокае і шчыра-даверлівае.

Маглі б...

Ды, на жаль, не можам.

Мележа няма з намі ўжо каля пятнаццаці гадоў — са жніўня 1976 года.

Сёння на Мележавай дарозе, ужо без яе гаспадара і творца, час паставіў яшчэ адну значную вяху, пазначаную лічбай семдзесят.

Яшчэ пры жыцці, у 1961 годзе, у невялікай прадмове да зборніка апавяданняў «Што ён за чалавек», азіраючыся на крыху больш як 15-гадовы творчы шлях, І. Мележ пісаў: «Дарога гэта мае свае ўздымы і спады, свае павароты. Ёсць людзі, якія лічаць, што творчасць пісьменніка павінна быць простай, няспыннай дарогай угору. У жыцці так бывае — калі толькі бывае — рэдка. Нават шасэ, як яго ні стараюцца раўняць, амаль ніколі не сцелецца роўным абрусам. Творчая ж дарога, мне здаецца, — гэта дарога ў полі, між лесу, дарога цераз выспы і брады, дарога па звычайнай зямлі. Можна засыпаць на ёй ямы і каляіны, зрабіць грэблі цераз брады, але адзнакі спаду і ўздыму, сляды таго, хто ішоў тут, застануцца на ёй для пільнага вока назаўсёды». Так пісьменнік ацэньваў сваю дарогу яшчэ тады, да таго, як былі напісаны раманы «Людзі на балоце», «Подых навальніцы», «Завеі, снежань» — творы, якія склалі знакамітую «Палескую хроніку», да таго, як з'явілася глыбокая на думкі, страсная пафасам кніга артыкулаў, эсэ, інтэрв'ю «Жыццёвыя клопаты». Але, думаецца, і ў канцы свайго жыццёвага шляху Мележ пра сваю творчую дарогу сказаў бы таксама, бо ніколі не была яна простай і роўнай. Хаця сумленнай, мужнай, мэтанакіраванай — заўсёды. І вывела яна яго, сына палескай зямлі, у вялікую літаратуру, у вялікае жыццё. Зразумела, пісьменнікава дарога ў літаратуры, у жыцці — гэта не толькі факты ягонай біяграфіі, ягоныя творы, але і ягоныя ідэі...

(Працяг на стар. 8—9).

# ЦІ ТОЛЬКІ РАСЧАРАВАННЕ?..

**«...Бюро райкома КПБ, усебакова абмеркаваўшы факт выхаду з КПСС дырэктара эксперыментальнай базы «Кастрычнік» А. Т. Жулегі разам з жонкай і дачкой, адзначыла, што гэты ўчынак зроблены, безумоўна, у вузкакарыслівых, эгаістычных мэтах... Убраўшыся ў тогу барацьбіта супраць таталітарызму і падпяваючы праціўнікам КПСС, ён у чарговы раз паказаў маладушша, прыстасаванства, двайную мараль. Зрабіўшы такі крок, Жулега А. Т., відаць, разлічваў умацаваць свой аўтарытэт кіраўніка, які прыкметна пахіснуўся. Не сакрэт, што ў апошнія гады на эксперыментальной базе «Кастрычнік» наглядаецца зніжэнне вытворчасці жывёлагадоўчай прадукцыі. Продаж мяса дзяржаве зменшыўся з 499 тон у 1976 годзе да 374 тон у 1989... Бюро райкома партыі, усе сумленныя камуністы не могуць пакінуць па-за ўвагай учынак Жулегі А. Т. Бюро прапануе ўсім пярвічным партыйным арганізацыям абмеркаваць факт выхаду Жулегі А. Т. з КПСС і даць яму прынцыповую партыйную ацэнку. Паўсюдна вызначыць і мэтанакіравана ажыццявіць меры па ўдасканаленні форм і метадаў ідэалагічнай, партыйна-палітычнай работы ў працоўных калектывах і па месцы жыхарства».**

**(«У бюро райкома КПБ». Воранаўская раённая газета «Ленинское знамя» за 20 кастрычніка 1990 года.)**

«ГРЭХАПАДЗЕННЕ» сям'і Жулегаў — самога Анатоля Трахімавіча, яго жонкі Хрысціны Аляксандраўны, іх дачкі Марыны адбылося 10 верасня 1990 года на партыйным сходзе эксперыментальнай базы-саўгаса «Кастрычнік» у прысутнасці першага сакратара Воранаўскага райкома партыі І. Філімонцава. Як і дзесяткі папярэдніх сходаў, і гэты гатоў быў пайсці па наезджанай каляіне, ажно раптам падняўся дырэктар базы А. Жулега і, папрасіўшы хвілінку ўвагі, зачытаў заяву аб сваім выхадзе з КПСС, палітыку, ідэалогію і практыку якой, як ён сказаў, больш не прымае. Перадаўшы заяву разам з партбілетам у прэзідыум, ён спакойна сеў на месца. Прысутныя не паспелі ачомацца ад гэтага афронту свайго кіраўніка, як зачытала заяву аналагічнага зместу яго жонка, дырэктар сельскага Дома культуры Хрысціна Аляксандраўна. Следам за бацькамі іх дачка, выкладчыца гісторыі мясцовай дзесяцігодкі Марына таксама заявіла аб сваім выхадзе з партыі.

Калі б статыстыка ўлічвала агульны партстаж усіх членаў КПСС, дык пасля таго сходу ў саўгасе ад гэтай сумы давялося б адмінусаваць акурат шэсцьдзесят гадоў...

Анатоль Трахімавіч потым мне раскажа, як успрыняў усю гэту гісторыю Філімонцаў. Пачуўшы аб жаданні дырэктара выступіць з заявай, ён быў, аказваецца, упэўнены, што заява тая будзе прысвечана падзеям у Малдавіі, дзе ў тыя дні быў абвешчаны дзяржаўны суверэнітэт,— што Жулега выкрые мясцовыя сепаратысцкія сілы. «А калі пачуў твае словы, дык думаў, што са мною здарыцца інфаркт», — скажа ён пасля Жулегу.

Потым была раніца і быў дзень. І яшчэ адзін дзень, і яшчэ. Нарэшце Жулегу паклікалі на бюро райкома і пачалі «вымаць» з яго душу. Сарамацілі, пагражалі, але Анатоль Трахімавіч стаяў на сваім.

Ведаеце, я тут гатоў быў нават паспачуваць таму бюро, якога час пазбавіў самага дзейснага некалі сродку ўздзеяння на непакорлівых — пагрозы зняцця з работы. А цяпер што зробіш з Жулегам? З партыі не выключыш — сам выйшаў. «Рэкамендаваць» пазбавіць яго дырэктарскай пасады, — могуць паслухацца, а могуць і не. Эксперыментальная ж база «Кастрычнік», якую ўзначальвае Жулега, знаходзіцца ў сістэме абласнога навукова-даследчага інстытута насенняводства. Адзінае, што магло зрабіць бюро райкома партыі, дык гэта зняславіць, дыскрэдытаваць яго. Але ж нават кампрамат на Жулегу адшукаць было не так проста. Хоць бы па той прычыне, што «Кастрычнік» па многіх сельскагаспадарчых паказчыках займаў першае месца ў раёне.Летась, напрыклад, сярэдняя ўраджайнасць збожжавых тут склала 43,1 цэнтнера з гектара, бульбы — 215 цэнтнераў (па раёне адпаведна — 36,5 і 175 цэнтнераў). Малака летась было атрымана ў гаспадарцы па 910 цэнтнераў на сто гектараў сельскагаспадарчых угоддзяў, па раёне—584,1 цэнтнера. Помніла таксама раённае кіраўніцтва, як вазіла да Жулегі рознае начальства з Мінска і Гродні, каб паказаць, што на Воранаўшчыне не спяць у шапку, дамагаюцца на ніве сельскай гаспадаркі вунь якіх поспехаў. Цяжка было падкапацца і пад самога Анатоля Трахімавіча. Па-першае, ці многа знойдзеш людзей, якія б папрацавалі дырэктарам на адным месцы трыццаць гадоў запар? А ці многія маюць ордэны Леніна і Працоўнага Чырвонага Сцяга? На пачатку васьмідзесятых гадоў выбіраўся Жулега дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР.

Вырашылі зрабіць акцэнт на маральны бок справы. Так нарадзіўся «дакумент» — пастанова бюро РК КПБ, дзе пра «ўчынак» сям'і Жулегаў гаварылася, што ён «зроблены безумоўна ў вузкакарыслівых, эгаістычных мэтах», што, «апрануўшы тогу змагара супраць таталітарызму і падпяваючы ворагам КПСС, Жулега ў чарговы раз паказаў маладушша, прыстасаванства, двайную мараль».

Вось так! Ці даўно сярод абывацельскай часткі насельніцтва бытавала думка, што ў КПСС уступаюць толькі дзеля кар'еры? Сёння ж партыя падазрае ў такіх грахах тых, хто вырашыў выйсці з яе радоў!

Роўна праз тыдзень пасля з'яўлення ў райгазеце нагаданай пастановы бюро РК першая старонка была аддадзена падборцы лістоў, аўтары якіх— ветэраны партыі, былыя наменклатурныя работнікі раёна выкрывалі «здрадніцкі ўчынак» Жулегі. У сваіх лістах яны прадэманстравалі падазронае аднадушша, за якім, відавочна, стаялі раённыя ідэолагі. Потым адзін з «аўтараў» пры сустрэчы скажа Анатолю Трахімавічу: «Ты, браце, прабач. Сам ведаеш, як арганізуюцца такія лісты ў рэдакцыю. Я б і сам даўно здаў свой партбілет, ды смеласці не хапае. Тут, у раёне, хоць і пенсіянер, а ўсё роўна залежыш ад райкома, баюся, стануць помсціць».

Да слова, у тым жа «Кастрычніку» пасля Жулегаў падалі заявы аб выхадзе з партыі яшчэ сем чалавек. Сярод іх — і галоўны бухгалтар гаспадаркі В. Насовіч. Прадстаўнік райкома спачатку ўгаворваў яе «ўзяцца за розум», потым прыгразіў: «Усё роўна працаваць не будзеце, даб'ём рэвізіямі і праверкамі». І жанчына, у якой, дарэчы, пяцёра дзяцей, здалася... Адчулі на сабе ўсю моц райкомаўскага прэсу работнікі саўгаса муж і жонка Янелі, муж і жонка Клебаны, якія таксама падалі заявы аб выхадзе з партыі.

Сустрэўся я, вядома, і з некаторымі раённымі кіраўнікамі. У прыватнасці, з другім сакратаром райкома партыі Міхаілам Кандратавічам Рудко. Мне расказвалі, што менавіта ён быў галоўным арганізатарам выкрывальнай кампаніі супраць Жулегі. Я спытаў у яго, чым вытлумачыць такі абразлівы, зневажальны тон пастановы бюро райкома? Міхаіл Кандратавіч скоса зірнуў на мяне і вымавіў: «Гэтым чалавекам мы больш не займаемся. Па яго ж уласнай просьбе...». Што ж, Анатоль Трахімавіч сапраўды аднойчы зайшоў да сакратароў райкома і папярэдзіў: калі ў раёне не спыніцца паклёпніцкая кампанія супраць яго, ён звернецца да нефармальнага друку рэспублікі. Гэта, відаць, падзейнічала — райком «пайшоў» насустрач.

Гутарыў я і з першым намеснікам старшыні Воранаўскага райвыканкома, старшынёй раённага аграпрамысловага аб'яднання, народным дэпутатам рэспублікі Генадзем Уладзіміравічам Кузюкам. Мой субяседнік, заўважыўшы, што не быў на тым бюро (быў у Мінску на сесіі ВС), гаварыў пра Жулегу з пэўным піетэтам, падкрэсліў яго прывабныя чалавечыя і дзелавітыя якасці, адзначыў вельмі высокую культуру земляробства ў саўгасе. «Ніхто ў раёне ніколі не меў такіх высокіх ураджаяў збожжа і бульбы, ды і па вытворчасці малака гэтая гаспадарка трымае трывалае першынство». Крыху памаўчаўшы, Генадзь Уладзіміравіч перасмыкнуў плячыма і, нібы спахапіўшыся, дадаў: «І ўсё-такі «Кастрычнік» апошнія гады топчацца на месцы. Вось і па мясе пачаў адставаць, мала што робіцца тут па механізацыі ферм, сацыяльным развіцці вёскі, паляпшэнні дарог...»

ДАЛЬБОГ, ручкацца з Анатолем Трахімавічам небяспечна — такое адчуванне, што тваю далонь сціснулі вялікімі кавальскімі абцугамі. Потым, калі мы будзем гутарыць, я зноў звярну ўвагу на яго цяжкія сялянскія рукі. Ды і сам ён — высокі, жылісты чалавек з рашучым маршчыністым тварам — выпраменьваў, здаецца, не страчаную з гадамі сілу і энергію.

Што я ведаў пра яго? У лісце, які быў дасланы ў рэдакцыю нашым чытачом з Воранава, паведамлялася толькі пра факт выхаду сям'і Жулегаў з партыі і што дырэктарам гэтай гаспадаркі працуе Анатоль Трахімавіч тры дзесяцігоддзі і пачынаў усё ледзь не на пустым месцы.

Ад самога ж Жулегі пачуў пра тое, што трапіў сюды з даволі прэстыжнай пасады намесніка старшыні Гродзенскага абласнога ўпраўлення сельскай гаспадаркі. «Да смерці надакучыла перабіраць паперкі. Пачаў прасіцца на самастойную працу ў калгас ці саўгас». Напісаў некалькі заяў у аблвыканком, абком партыі, нарэшце выклікалі на бюро і паведамілі, што просьбу яго задавальняюць і даюць на выбар чатыры гаспадаркі. Вырашыў ехаць у «Кастрычнік».

«Выйшаў з бюро,— згадваў Анатоль Трахімавіч,— а на душы кошкі скрабуць. Я ж жонцы нічога не сказаў аб сваім рашэнні ехаць працаваць у вёску. Толькі што атрымаў трохпакаёвую кватэру з усімі выгодамі, якой мая Хрысціна не магла нацешыцца, а тут такое... Жонка як пачула, дык адразу ў крык: «Ты пра дзіця наша малое падумаў? Нікуды я з Гродна не паеду, ты папрасіўся, ты і едзь». І паехаў. Агледзеўся— жахнуўся: ні кватэры, ні электрычнага святла. А гаспадарка... Каровы стаяць у дзіравых хлявах, бяскорміца. Сабраў актыў, пайшлі па хатах прасіць у людзей сена — хто колькі дасць...

Кватараваў я тут месяцы тры, як раптам прыехала жонка з дачкою. Весялей стала. Да іх прыезду ў нас ужо электрычнае святло было — прыстасавалі для гэтай мэты стары лакамабіль. Напружанне ад той «электрастанцыі» такое, што лямпачкі ў хаце ледзь свецяцца — газету ўвечары не пачытаеш...

Гэтак жа слаба радзіла тут і зямля — збожжа збіралі крыху больш за пяць цэнтнераў, бульбы — пад восемдзесят. Што сеялі, тое амаль і збіралі...».

Гадоў дваццаць-трыццаць назад я, тады раённы газетчык, абавязкова папытаўся б у свайго субяседніка, як яму ўдалося выцягнуць гаспадарку. Помню і набор тых хутчэй прыдуманых, чым рэальных сакрэтаў, якія быццам бы дазвалялі «выходзіць у людзі» таму ці іншаму старшыні: выбіў у банку грошы і праавансаваў людзей, узняўшы такім спосабам іх працоўны імпэт; забяспечыў сяльчан будаўнічымі матэрыяламі; раіўся з мясцовымі аксакаламі; дастаў гатунковае насенне і падняў ураджайнасць і г. д. Пра такія «сакрэты» я ў Жулегі не пытаўся, адышоў іх час. Гаварылі мы з ім пра жыццё, пра яго радасці, перамогі, памылкі і страты. Але вось адзін штрышок, які мне яшчэ да знаёмства сказаў шмат пра гэтага чалавека. Каб дамовіцца аб сустрэчы, я некалькі разоў званіў у саўгас з Мінска і кожны раз чуў аднатыпны адказ: «Паехаў на ферму», «На полі», «У свірне», «Сабраў нараду». Вырашыў пазваніць Жулегу дахаты вечарам. Трубку ўзяла жонка, сказала, што Анатоль Трахімавіч яшчэ на працы. Паглядзеў на гадзіннік — адзінаццатая гадзіна вечара...

«Ну і якая сувязь паміж руплівасцю Жулегі і яго рашэннем выйсці з партыі?» — спытае каторы нецярплівы чытач. Нібы між іншым я спытаў у Анатоля Трахімавіча, калі ў яго выспела думка «пакласці» свой партбілет. «Даўно», — скупа адказаў ён. Раптам усміхнуўся: «А ведаеце, я ж з вельмі, калі можна так сказаць, правільнай партыйнай сям'і. Бацька мой Трахім Цярэнцьевіч, стары камуніст, перад самай вайной працаваў старшынёй райвыканкома на Беласточчыне, потым другім сакратаром Гродзенскага райкома партыі. У вайну быў камандзірам партызанскага атрада, камісарам злучэння. Адказныя пасады займаў у пасляваенны час. Памёр бацька ў сямідзесятыя гады персанальным пенсіянерам...» «Як бы ён рэагаваў на ваш крок?» — задаў я, відаць, не вельмі далікатнае пытанне. «Не ведаю, — паціснуў плячыма Анатоль Трахімавіч,— хоць ён, хачу вам сказаць, многае бачыў, многім быў незадаволены. Але гэта была незадаволенасць парадкамі ў партыі і не кранала, па сутнасці, каранёў. Бывала, прыедзе да мяне, і ледзь не з парога: «Ну ты чуў, каго выбралі сакратаром абкома? Я ж яго помню інструктарам райкома. Адно што ўмеў, дык гэта падлашчыцца да начальства». Ды і ў мяне заслона з вачэй не адразу апала. Вы ж, мабыць, ведаеце, якая праца ў кіраўніка гаспадаркі — у шэсць, а летам у пяць гадзін раніцы ўсхапіўся і пайшоў круціцца, як вавёрка ў коле, то туды, то сюды — сто розных клопатаў. Вечарам прыедзеш дахаты, схопіш нешта ў рот і хутчэй у ложак. Толькі, здаецца, паклаў галаву на падушку, як ужо трэба ўставаць. Пры такой спешцы няма калі агледзецца вакол сябе, задумацца, як кажуць, над сэнсам жыцця. Але сёе-тое ў душы назапашвалася. Трэба было быць сляпым, каб не бачыць, што робіцца вакол — ілжывасць партыйных дэкларацый, бязмежнае самаўсхваленне. Партыя — розум, гонар і сумленне нашай эпохі... Які розум, які гонар?.. Помню, у пяцьдзесят шостым, пасля дваццатага з'езда, газеты, радыё трубілі аб тым, што партыя знайшла ў сабе сілы развянчаць культ асобы Сталіна. Не мог слухаць гэтай хлусні. Ды каб тыран не памёр, ніхто б і не пікнуў... А той лозунг — партыя наш рулявы? Даруліла. Помню, выклічуць у райком, тупнуць нагой — чаму кукурузы мала пасеяў, чаму не выконваеш партыйнай пастановы аб ліквідацыі травапольнай сістэмы? А на той канюшыне ў мяне малочная жывёлагадоўля трымалася. Не сцерпіш, скажаш што, дык на цябе адразу воўкам глядзяць: ты цішэй, а то... На кожным кроку — рабі так, не рабі гэтак. А паслухаеш таго партыйнага «спеца», які цябе вучыць, і плюнуць хочацца — такога б я ў сябе і звеннявым не паставіў... Пачынаў я пакрысе разумець, што справа ў самой партыі, яе антыдэмакратычнай сутнасці, неабмежаваных правах, якія яна сабе прысвоіла.

Зараз многія радуюцца, што адмянілі шосты артыкул Канстытуцыі: маўляў, партапарат цяпер не будзе лезці ва ўсе дзіркі, ва ўсё ўмешвацца. Будзе. Добраахвотна ён сваю ўладу не аддасць».

Слухаю Анатоля Трахімавіча і ўспамінаю пра нагаданую вышэй сустрэчу з другім сакратаром райкома Рудко. «Вы, відаць, не ведаеце,— сказаў ён мне,— што гаспадарка Жулегі мінусуе з малаком, аж па 1,7 кілаграма на карову!» Я выказаў здзіўленне з нагоды такой яго дасведчанасці ў чыста гаспадарчых справах. Рудко нічога не адказаў...

«А хто стаіць за непахіснасць калгасна-саўгаснага ладу? — працягваў між тым Жулега.— Зноў жа — партдзяржапарат. Неяк давялося мне прысутнічаць на нарадзе, дзе выступаў адзін абласны начальнік. Ён строга папярэдзіў — разбазарваць грамадскую маёмасць не дазволім, розным там арандатарам, фермерам адводзіць толькі няўдобіцу. Вось табе і прыняты Вярхоўным Саветам рэспублікі Закон аб зямлі...»

«А возьмуць зараз сяляне зямлю ў прыватнае карыстанне?» — пытаюся я ў дырэктара. Ён круціць галавой: «У масе сваёй пакуль што ўстрымаюцца. Па-першае, вынішчылі мы ў вяскоўца ўсё сялянскае, тое ж пачуццё гаспадара. Па-другое, і гэта мне здаецца найбольш істотным — людзі не вераць уладзе. Многія кажуць: сёння тую зямлю далі, заўтра, глядзіш, забяруць, ды яшчэ ў кулакі запішуць, а з кулакамі ведаем, што рабілі... А наогул, скажу вам, нямала людзей ма-

(Працяг на стар. 12).

# ШЛЯХ У БЯСКОНЦАСЦЬ ЖЫЦЦЯ

(Пачатак на стар. 1).

На такіх важных, можа, нават этапных перавалах ёсць патрэба задумацца над гэтай дарогай. Задумацца не толькі над пройдзеным і зробленым выдатным мастаком слова, не толькі над яе вытокам, яе накірункам, яе арыенцірамі.

Нядаўна, чытаючы свежы нумар часопіса, спыніўся на выказванні славутага аргенцінскага пісьменніка Эрнеста Сабата. Разважаючы пра сучасны стан мастацтва, ён зазначае: «У эстэтыцы знаходзіць адлюстраванне гістарычная рэальнасць. Кожны перыяд мае сваю каштоўнасць — рэлігійную, эканамічную ці метафізічную, — якая дае афарбоўку ўсяму астатняму». Думка — для нас — надзвычай актуальная.

Тое вялікае і страшнае ўзрушэнне, якое прынёс Чарнобыль, узрушэнне, да канца яшчэ не ўсвядомленае, не асэнсаванае, кожнага з нас прымушае па-іншаму пагледзець і на само жыццё ў розных яго праявах, і на яго мастацкае ўвасабленне, на яго эстэтычны аналаг. А гады перабудовы?.. Колькі каштоўнасцяў яны адверглі, зруйнавалі ўшчэнт!.. А што ўзамен?.. У такіх умовах не ўсё вытрымала выпрабаванне, не ўсе ранейшыя каштоўнасці захавалі сваю годнасць і жыццёвасць.

Некалькі гадоў назад крытыка была аднадушная ў тым, што Мележава творчая дарога ўпэўнена выкіравана (час — тады — гэта засведчыў) на магістральны шлях сусветнай літаратуры. Імя Мележа ставілася побач з імёнамі М. Горкага, М. Шолахава, А. Талстога, Л. Ляонава; ягоная творчасць разглядалася і ў пэўным кантэксце з творчасцю такіх сусветна вядомых мастакоў эпічнага характару, як У. Рэймант, Р. М. дзю Гар, Х. Лакснес, Т. Вулф. Зразумела, былі для гэтага падставы, яны ёсць і сёння. Падставы эстэтычнага характару.

Але зараз пра другое.

Маючы за плячыма немалы ўжо творчы вопыт, Іван Мележ у сваіх аўтабіяграфічных нататках «Трохі згадак і думак» падкрэсліў: «Відаць, трэба пісаць перш за ўсё аб тым, што асабліва дарага душы, што яе хвалявала і хвалюе — што стала дарагой часткай тваёй асабістай біяграфіі. Гэта асаблівасць патрабуе, разам з тым, каб пісьменнік жыў з людзьмі, каб іх надзеі і трывогі былі яго надзеямі і трывогамі, каб біяграфія пісьменніка была натуральна, непарыўна зліта з біяграфіяй свайго народа. Без гэтых дзвюх якасцей рэдка каму ўдаецца напісаць добры твор; хіба што талент выцягне.

З гадамі ўсё больш адчуваю я няўхільную справядлівасць таго закона творчасці, аб якім сказаў неяк Твардоўскі:

Вся жизнь в одном-единственном
завете:
То, что скажу, до времени тая,
Я это знаю лучше всех на свете,
Живых и мертвых. Знаю только я...»

Думка гэтая для пісьменніка мела прынцыповае значэнне.

Сувязь з роднай зямлёю, з жыццём народа, любоў да роднага кутка зямлі — для Мележа галоўнае. Тут корань усяго. І вельмі важна, што Мележавы тэарэтычныя высновы з'явіліся не ў выніку якіхсьці разумовых практыкаванняў, тым больш не з нейкіх кан'юнктурных меркаванняў. Яны народжаны жыццём, грунтуюцца на салідным уласным творчым фундаменце. Бо толькі перажытае асабіста можа быць асновай творчасці, цікавым і карысным для іншых, бо будзе яно адзіна непаўторнае, пазначанае пячаццю першаадкрыцця.

Мележава «Палеская хроніка»— самае красамоўнае гэтаму пацвярджэнне. Пісьменнік неаднаразова падкрэсліваў, асабліва ў артыкуле з красамоўнай назвай «Знайсці сябе», што яму ніколі не было ў такой ступені знаёмае і дарагое тое, пра што ён пісаў. «Я шырока бачыў поле, па якім ішоў, адчуваў у ім сябе і працаўніком, і гаспадаром. Але, што асабліва важна, поле гэтае я не толькі ведаў, я любіў яго. Таму што поле, па якім я ішоў,— гэта было маё поле. Гэта было жыццё блізкіх мне людзей і маё жыццё».

Адсюль ідзе ўсё: адсюль тыя этычныя і эстэтычныя ідэалы, якія ляжаць у аснове мастакоўскага адчування і бачання навакольнага свету; адсюль выключная непасрэднасць успрымання свету, унутрана стрыманая ўсхваляванасць аўтарскага голасу, моцная ўнутраная лірычная насычанасць раманаў.

Мележу надзвычай па-мастацку натуральна, свабодна ўдалося гэтай усхваляванасцю, лірычнай цеплынёй насыціць усю матэрыю твораў — побыт і сацыяльныя калізіі, пейзаж і думкі, пачуцці герояў. Адбылося арганічнае зліццё духоўнай і душэўнай біяграфіі пісьменніка з біяграфіяй народа, з якім ён жыў, думы і пачуцці якога былі і ягонымі ўласнымі думамі і пачуццямі.

Прысвячэнне да рамана «Людзі на балоце»: «Бацьку, маці, бацькоўскай зямлі». Гэтымі словамі пачынаецца апавяданне пра людзей Палесся на пераломным рубяжы гісторыі. Прачытаўшы раман «Людзі на балоце», пазней — «Подых навальніцы» і «Завеі, снежань», мы бачым, пераконваемся, што пісьменнік меў усе падставы, меў права сказаць гэтыя адказныя словы. Творы ў такой ступені пранікнуты любоўю да роднага аўтару кутка Палесся, да яго людзей, што ўспрымаюцца сапраўды як «запаветная песня» (Я. Брыль). Яна, гэтая песня, глыбокая і мілагучная, шырокая, павольная і чароўная, шчымліва-тужлівая і жыццесцвярджальная, поўная вялікай веры ў прыгажосць і высокі сэнс чалавечага быцця. Карані яе, вытокі ў глыбінях народнага жыцця, народжана яна нязменнай любоўю і вялікім клопатам сына роднай зямлі, паклікана часам, выканана шчыра, з найглыбейшай душэўнай аддачай, на высокім прафесійным узроўні.

**Палессе...** Адзін з самых глухіх куткоў Беларусі. Увесну і ўвосень па некалькі месяцаў адрэзаны ад вялікага свету. Жыццё тут ідзе па спрадвеку ўстаноўленых, пісаных і няпісаных, законах. Людзі жывуць, як жылі іхнія бацькі, дзяды, прадзеды і прапрадзеды. Здабываюць нялёгкі тут хлеб, працуюць, гадуюць дзяцей, смуткуюць і радуюцца, пяюць песні і плачуць, раджаюць дзяцей і хаваюць памёршых. Людзі жывуць, бо яны народжаны жыць, ім трэба жыць. Гэты ўнутраны, як бы біялагічны і разам з тым менавіта чалавечы, творчы пачатак жыцця, жыцця самога па сабе, жыцця ў сабе, у гэтым аб'ёме, у гэтым тэмпе, у гэтых вымярэннях, нарэшце, у гэтых фарбах, пісьменнік перадаў з выключнай дакладнасцю. У творах усё проста, натуральна, пераканаўча, ні ў малейшай ступені не адчуваецца аўтарскай зададзенасці, штучнасці, нацяжак. У Мележавай «Палескай хроніцы», як мала ў якім творы беларускай літаратуры, добра адчуваецца арганічнасць у адлюстраванні рэчаіснасці, калі жыццё ўзнаўляецца нібы ў формах самога жыцця. Выдатнае майстэрства сінтэзу дазволіла пісьменніку ў адзінай натуральнай жыццёвай плыні паказаць побыт, звычаі, норавы людзей, іх працу, заняткі, даць цудоўныя малюнкі палескай прыроды, спалучыць грунтоўнае сацыяльнае даследаванне з глыбокім псіхалагічным аналізам. Менавіта гэтая паўната, мэтанакіраваная ўсеабдымнасць у адлюстраванні рэчаіснасці, непарыўная ўзаемасувязь абставін і характараў з'яўляецца адной з вышэйшых адзнак мастацкай праўды.

У Мележа, як і заўсёды ў сапраўднай літаратуры, форма надзвычай дакладна і поўна выражае, увасабляе змест (калі магчыма наогул такое дзяленне твора мастацтва). А змест — гэта жыццёвыя факты, падзеі, сітуацыі, характары, гэта духоўны і душэўны змест асобы мастака. У Мележа тут выдатнае адзінства. Духоўны і душэўны свет яго як мастака, як чалавека закладваўся менавіта ў гэтым, што ўзнаўлялася, жыцці, на ўлонні гэтай прыроды, у акружэнні гэтых людзей, у гэтай працы, ішоў адсюль. Жыццё, узноўленае ў «Хроніцы»,— гэта і Мележава жыццё; свет, створаны тут,— гэта і ягоны свет. А ягоны свет — гэта свет ягонага асабістага жыцця, гэта той свет, з якога ён выйшаў, які нёс у сабе.

У аснове Мележавага мастацкага свету — багаты рэальны свет простых людзей у іх адзінстве з прыродай, у шчырым душэўным адзінстве з зямлёй, у складаным, супярэчлівым і бытавым перапляценні. Пісьменнік падае сваіх герояў ва ўсёй іхняй жыццёвай канкрэтнасці. Яны быццам выхаплены з жыцця. Толькі не аддзелены ад яго, а пададзены нібы разам з жыццём, якое іх акружае, з якім яны пастаянна ўзаемадзейнічаюць. Нельга ўявіць сабе Васіля, Ганну, Яўхіма, Міканора, Хадоську, прадстаўнікоў старэйшага пакалення па-за штодзённымі абставінамі іхняга жыцця, іхнімі клопатамі і турботамі, без працы, па-за сямейнымі і складанымі сацыяльнымі ўзаемаадносінамі. Для Мележавых «людзей на балоце» прырода, побыт, асабістыя ўзаемадачыненні, глыбокія сацыяльныя змены — гэта іхняе жыццё.

І Мележ знайшоў адэкватную таму жыццю форму — жанравую, сюжэтна-кампазіцыйную, моўна-стылёвую. Форма тут — гэта ўзнаўленне непасрэднай рэчаіснасці ва ўсёй яе глыбіні і аб'ёмнасці, гэта зварот да жыццёвага зместу ва ўсёй яго пачуццёвай сіле, ва ўсім яго багацці.

Стыль падпарадкаваны паказу, даследаванню, узнаўленню гэтай паўнаты і непасрэднасці жыцця, жыцця як бы ў формах самога жыцця. Паўната ахопу рэчаіснасці, эпічнасць, разуменне і адчуванне драматызму жыцця і чалавечых характараў, пластычнасць, аб'ёмнасць пісьма, аналітызм — вось тыя вызначальныя якасці, што складаюць сутнасць мележаўскай мастацкай структуры.

**Мова хронікі.** Яна заслугоўвае асобнай гаворкі. Народная прастамоўная, нават дыялектная стыхія напаўняе ўсю мову твора: не толькі мову герояў, але і мову аўтарскую; не толькі мову дыялогаў, маналогаў, але і апісанняў, апавядальную мову; не толькі мову куранёўцаў, але і Апейкі. Гэтая народная моўная стыхія — не так словы, як мелодыка, інтанацыя, лад яе, эмацыянальная афарбоўка.

Бывае, трапляеш у новыя мясціны. Сустрэнешся з адным чалавекам, другім, трэцім. Слухаеш іх гаворку. Адразу яна нейкая нязвыклая, нібы непрывабная. Праходзіць час. Звыкаешся. Пачынаеш усведамляць, адчуваць, што ў сваёй мелодыцы і рытміцы, лексіцы, эмацыянальнай і экспрэсіўнай напоўненасці мова гэтая народжана гэтым краем, гэтым навакольным светам.

Нешта падобнае адбываецца і пры знаёмстве з раманамі Івана Мележа. Спачатку дыялектныя асаблівасці, у прыватнасці фанетычныя, быццам рэжуць вуха. Потым акунаешся ў атмасферу жыцця куранёўцаў, у гэтае несупыннае вірʼванне чалавечых страсцей і пераконваешся, наколькі ўсё тут жыццёва, арганічна, адно як бы народжана другім. Такое можа ісці толькі ад аўтаравай пражытасці, унутранай глыбіннай далучанасці да ўсяго, пра што ён піша.

Сам раманіст зазначаў, што пачаў ён пісаць «Людзей на балоце» чыстай літаратурнай мовай, без багатай моўнай дыялектнай плыні. Спачатку пісалася. Потым адчуў, што ўсё не тое: не тыя людзі, не тая атмасфера, наогул не тое жыццё. І ён пачаў пісаць так, як, тое жыццё для яго гучала, як яно жыло — рэальна і ў ім. Мележа можна зразумець. Пісаў ён пра самае, самае асабістае, увабранае, як кажуць, з малаком маці, пра тое, чым жыў, што ўвайшло ў кроў і розум.

**Сёння, з дыстанцыі часу,** можна, напэўна, паразважаць і вось пра што. «Палеская хроніка» пісалася ў часы, калі асабліва актыўна вялася інтэрнацыяналізацыя і нашага грамадства, і нашай мовы. І, напэўна, наша родная мова, адчуваючы смяртэльную небяспеку для свайго існавання, як бы змабілізавала ўсе свае глыбінныя рэсурсы, свае прыродныя эстэтычныя магчымасці, каб паказаць сваю сілу, моц, прыгажосць. Такое было характэрна не для аднаго Мележа. Але ў Мележа выявілася найбольш дасканала і праўдзіва. Таму і жыццяздольна.

Няхай не здасца гэта занадта метафізічным, але міжволі неяк думаецца і пра такое. Усе, хто сустракаўся з Іванам Паўлавічам Мележам у апошнія гады жыцця, не маглі не заўважыць ягоную ўнутраную засяроджанасць, паглыбленасць у сябе, нейкую адлучанасць ад штодзённай мітусні. І ці не ў гэтыя часіны ў прадчуванні вялікай зямной трагедыі — чарнобыльскай катастрофы, паклікаены быў ён (хто скажа, якімі сіламі зямнымі ці нябеснымі) абяссмерціць свой край. Гэта Мележ зрабіў. Палессе, непаўторнае ва ўсіх сваіх праявах, гуках і рухах, чароўнае сваёй унікальна-непаўторнай красою. тое Палессе, на якое ўсім сваім жахам абрынулася вынішчальная ядзерная навала, засталося



Сустрэча са школьнікамі ў вёсцы Дворышча Хойніцкага раёна. 1962 г. Фота Ул. КРУКА.



Сярод рабочых у саўгасе «Спадарожнік» Быхаўскага раёна. 1975 г.
Фота Ул. КРУКА.

жыць. Засталося жыць, увасобленае мастаком-патрыётам у выдатных творах мастацтва. Такое падуладна толькі мастаку-патрыёту. Бо ці можна з такой сілай праўды выявіць глыбінную сутнасць роднага краю, усё багацце яго жыццёвых праяў, характар людзей? ці можна стварыць такі гарманічны мастацкі свет (асабліва ў «Людзях на балоце»), які б быў адэкватны свету рэальнаму? ці можна, нарэшце, прадчуць не такую блізкую яшчэ катастрофу і перад яе тварам усё зрабіць, каб выканаць сваю вышэйшую місію мастака-творцы? — ці можна ўсё гэта зрабіць, не любячы кожнай клетачкай сваёй душы родную зямлю, яе людзей, не ўсведамляючы сваёй вялікай адказнасці перад імі. Тут разважанні пра якіясьці прынцыпы вышэйшага парадку, пра каштоўнасці агульначалавечыя нічога не дадуць. Вялікая праўда мастацтва нараджаецца вялікай любоўю яго творцаў.

«Я ўпэўнены: праўда была, ёсць і будзе галоўным законам учарашняй, сённяшняй і заўтрашняй літаратуры. Яна— аснова жыцця літаратуры. — сур'ёзная, глыбокая, мужная праўда, праўда, якая вучыць людзей правільна разумець жыццё, якая горача ваюе за добрае, якая страсна ненавідзіць усё паганае, бруднае і на поўны голас папярэджвае пра небяспеку», — гаварыў Іван Паўлавіч на V з'ездзе беларускіх пісьменнікаў.

Гэта не проста дэкларацыя, гучныя словы. Пісьменнік імкнуўся ўсёй сілай свайго таленту сцвярджаць, раскрываць такую праўду.

Зразумела, Мележ быў сынам свайго часу. Час фарміраваў яго, дыктаваў свае патрабаванні. Не заўсёды глыбінныя заканамернасці часу і патрабаванні сучаснасці знаходзіліся ва ўзаемапранікненні. Так у жыцці, так і ў творчасці пісьменніка. Тады на першы план выступае публіцыстычнасць, парушаецца гарманічнасць узнаўляемага свету. Пануе праўда публіцыстычнага слова, але не слова мастацкага, якое адзінае нясе ў сабе праўду жыцця.

Сёння партыйныя разважанні Апейкі, нягледзячы на іх лагічную доказнасць, тэарэтычную аргументаванасць, чалавечую перакананасць, як і ягоныя спрэчкі з Башлыковым, успрымаюцца з вялікай доляй сумнення. Мы валодаем большай, багацейшай інфармацыяй, чым валодаў Мележ. Публіцыстыка сучасная больш багатая, чым публіцыстыка тагачасная. Як заўтра будзе ўспрымацца ўсё гэта — сказаць цяжка.

Мележу важна было не проста паказаць падзеі тых гадоў, не толькі выказаць да іх свае сучасныя (часу напісання твора) адносіны, паспрабаваць адчуць, убачыць перспектыву тых падзей, паглядзець на іх шырэй, у агульным руху краіны. І вось такі погляд, гэты падыход дазволіў раманісту ўбачыць і паказаць тое, што сёння для нас асабліва істотна. Гэта — адрыў селяніна ад зямлі, рассяляньванне селяніна.

Зямля — мэта, да якой імкнецца галоўны герой раманаў Васіль. (А Васіль— гэта сялянства, найбольш жыццястойкая і жыццяздольная яго частка). Зямля — ягоная радасць і гора, светлыя мары і горкія пакуты, праца, творчасць, смерць. Зямля — ён сам. Без зямлі — гэта ўжо не ён. Васіль атрымаў зямлю. Яго прымушаюць уступаць у калгас.

«Аддай сваё поле, дзе кожную сцяблінку, здаецца, сагрэў бы сам! Ішоў бы ад адной да другой ды хукаў бы, каб не мерзла!» — спрачаецца Васіль.

«Аддай поле, абагуль! Аддай поле — ето ўсё адно што — аддай душу, папробуй, адарві душу!.. Уся сіла чалавека — у зямлі! І сіла ўся, і радасць. Няма зямлі — няма, лічы, і чалавека!»

Усё ў Васіля сплялося ў адзін клубок. Нервы абвостраны да апошняга. Зямля — гэта з малаком маці, гэта адвечнае імкненне селяніна. Вякамі, ад пакалення да пакалення, мара пра зямлю, прага яе накопліваліся ў сэрцы, у розуме селяніна.

З вялікай сілай напісана апошняя, для Васіля асабліва драматычная сцэна, звязаная з барацьбой за зямлю. Сутыкнуўся ўжо Васіль не з кулаком Яўхімам, а з Міканорам, прадстаўніком беднага сялянства, які безаглядна прымае новае і энергічна праводзіць яго ў жыццё.

«— Зямля — народная, — прамовіў Міканор. У голасе яго пачулася зноў помслівая злараднасць.

—Мая!!

Васіль аж задрыжаў. Ад крыку, ад упартасці. Ён чуў, што сіла такі на Міканоравым баку, што надзеі ў яго, Васіля, амаль ніякай, што, мабыць, не даб'ецца нічога. Але гэта цяпер не толькі не кволіла, а дзіўна ўздымала адвагу. Зямля, якую ён любіў і раней, цяпер была яму даражэй, як калі-небудзь. Даражэй за ўсё, за сябе самога. Даражэй асабліва таму, што ён чуў—от-от яна сыдзе з-пад яго ног. Ужо сыходзіць. Ён цяпер гатоў быў для яе на ўсё».

Але нічога не дапамагае. Сутыкнуліся не на жыццё, а на смерць «маё» і «наша». У гэтай зацятай сутычцы сіла і права не на баку Васіля. Хаця па-чалавечы яго пазіцыя, яго ўпартасць, яго вялікая страсць да зямлі так зразумелы і выклікаюць толькі павагу, спачуванне, шчымлівы боль. Васіль пераможаны фізічна, пераможаны сацыяльна, надломлены маральна. Ён згубіў зямлю, якая была яго галоўнай марай, сэнсам і мэтай існавання. І якім павінен быў быць гэты ўнутраны злом, калі Васіль, які раней зямлю адчуваў як жывую, самую дарагую для яго істоту, паэтызаваў яе, губляе цяпер усялякую павагу. Ён «важка пайшоў цераз паласу ад людзей.

Ішоў, горбячы плечы, угнуўшы галаву. Лапці ўязджалі ў пульхную раллю, тапталі, нявечылі сцяблiны руні».

**Прачытаўшы сёння** Мележаву хроніку, асабліва старонкі, прысвечаныя драматычнаму лёсу Васіля Дзятла, па-іншаму бачыш і лёс усяго сялянства, інакш глядзіш і наогул на ўсё наша жыццё. Адарваць селяніна ад зямлі адарвалі з болем, са слязьмі, з крывёю... А што гэта дало? Да чаго прыйшлі? Раманы Мележа прымушаюць думаць пра гэта.

«Палеская хроніка» Мележа — не толькі або нават не так мінулае, як сучаснасць, уважлівы погляд у будучыню. Бо кардынальныя пытанні, якія тычацца месца чалавека ў свеце, ягоных узаемаадносін з зямлёю, з навакольным светам узаемаадносін з грамадствам у перыяды вялікіх гістарычных пераломаў, пытанні сцвярджэння непераходнай каштоўнасці чалавечай асобы ў самых значных грамадскіх пераўтварэннях, сёння важныя не менш, чым учора, а заўтра будуць патрабаваць нікольki не меншай увагі, чым сёння. І тут мае значэнне не так час падзей у творы, жыццёвыя абставіны і духоўная атмасфера ўзаемадзеяння персанажаў, як сам прынцып адносін да чалавека — прынцып філасофскі, прынцып мастацкі, як глыбіня пранікнення ў сутнасць жыцця, як праўда ўзнаўлення. У «Палескай хроніцы» яны адзіныя. У сваёй сутнасці сугучныя сучаснаму светаразуменню.

Яны жыццятворныя.

**Серафім АНДРАЮК.**

**Алесь ЗВОНАК**



## ВЯЧЭРНІ ЗВОН

Вечерний звон, вечерний звон!
Как много дум наводит он...
**Русская народная песня.**

Як гучна льюцца галасы званоў,
Нібы закляцця моц з іх раптам спала
І разарвала ў ланцугу звяно,
Што рух часін на прывязі трымала.

Вячэрні звон — палоннік нематы —
Маўчун абезгалоўленай званіцы,
І я маўчаў дзесяткі год, як ты,
Прыкуты да пакутнай калясніцы...

Я не вяду падлік хадзе падзей,
Час, летапісец мудры, іх падлічыць.
Я пад зямлёю гінуў і ў вадзе,
Забойцаў бачыў брыдкія аблічча.

Той час, як пралля на верацяно,
Намотваў дзей-падзей суровых ніці.
Праз краты сонца не было відно
І подых волі мог мне толькі сніцца...

Я ўсё чакаў, што цемры таўшчыню
Прабіўшы, праз астрожнае ваконца
Загляне, усміхаючыся дню,
Надзеі незаплямленае сонца...

Так нас, калісь бяспёрых арлянат,
Вучыў працейшай мудрасці Купала,
Што сілу можа даць толькі Зямля
І крылы, што на ўзлёт нам не хапала.

Хіба без іх прайшоў бы ўсе кругі,
Што нават Данту не маглі прысніцца,
Дзе заліва Сцікса берагі
Людская кроў — не мутная вадзіца...

Была й мая душа ў тых кіпцюрах,
І хоць не стаў сцярвятнікаў здабыткам,
А гнаў яе у пяткі дзікі страх,
Цынга-зладзейка цапала за лыткі.

А я жыву. Я чую, як званы
Нясуць свой спеў над Свіслаччу-ракою,
Як гасяць помсты вогнішчы яны,
Разносяць гукі згоды і спакою.

І доўга-доўга рэха іх гудзе,
І вечаровы цёплы змрок гусцее,
І на вачах маіх згасае дзень
Яшчэ адной няздзейсненай надзеі...

## РАТАЦЫЯ

Ад родных ніў, ад роднай хаты...
**М. Багдановіч.**

Ад родных ніў, ад роднай хаты
У велічны крамлёўскі двор
Яны узяты ў дэпутаты
Галасавальны множыць хор.

Той далгарукаўскі надворак
Ужо асвойтаны даўно,
А ў залі не сціхае ворах —
Канца прамовам не відно.

Тут збор людзей вышэйшай маркі.
То й ты не вешай галавы:
Хоць акадэмік, хоць даярка
Тут маюць роўныя правы.

Хаця і ўтульна ў тым сядзельцы,
Не прыкархнуць тут аніяк:
То камень кіне ў бросню Ельцын,
То вострым джалам джгне Сабчак.

То перуном грымяць прамовы,
То рэхам слоўны вадаспад:
Чым больш хвалы перабудове
Тым воз шпарчэй паўзе назад!

А думкі-хмаркі не таропка
Плывуць да роднага кутка,
І ўжо не тую цісне кнопку
Падчас, забыўшыся, рука...

Што ж?! Пасядзелі з поўным правам
Між славай венчаных муроў,
Пакіравалі ў смак дзяржавай,
Пара й дамоў, даіць кароў!

## ЖЫВІ МІФ СВЕТЛЫ...

Мне, столькі год прапаўшаму без вестак,
Адпетаму ў астрозе і ў царкве,
Так лашчыць сэрца покліч благавесту,
Што над маім прыстанішчам плыве.

Я хрышчаны ў царкве, што на Нямізе,
Якую вернік Жоўтай зваць прывык.
Ад небаскробаў сіратой паблізу
Яна й цяпер стаіць без галавы.

Аднак прайшла на безгалоўе,мода,
Адродзяць купал і адновяць крыж.
Бо ў будучыню дойліду-народу
Патрэбна вера, а не светлы шыш!

І я на той высакароднай хвалі
Дактрыну гэту цвёрда ухваліў:
Чым больш імкнешся ў неба, тым
трывалей
Стаіш дзвюма нагамі на зямлі.

Сваёй Галгофай горкаснай прайшоў я,
Крывавы смерч не раз у твар хвастаў.
Таму скажу з адкрытаю душою:
Жыві між нас міф светлы пра Хрыста!

## ЖАЛЬБА

Поўны жалю ў прэсе некралог,
Дзе найпершых прозвішчаў калонка.
А нябожчык жыў сабе як мог,
Жарт цаніў і вастрасловіў тонка;

І такія стрэмкі падпускаў,
Што сябры хапаліся за бокі,
Здатны быў на жарт, на востры сказ,
У «вярхах» бываў на косым воку.

Быць заўжды стараўся ў старане
Ад сусальнай пазалоты культу,
Хоць і мусіў граць на той струне,
Што заўжды была пакорнай пульту.

Так прайшоўшы свой жыццёвы шлях,
Дажываў свой век забыты ўсімі,
Да папругі ўвесь у медалях;
Слава ж дзён былых плялася міма.

Так вось Богу і аддаў душу.
Хай зямелька будзе яму пухам!
Толькі я сардэчна вас прашу:
Не кідайце словы-пацяруху:

«Ён жывы! Ён з намі! Ён між нас!!
Будзе вечна жыць у нашых сэрцах!»
Фарысеі! Гучная хлусня
Быць не можа проціборцам смерці.

І спыніце свой няшчыры хор
Аб заўчасным нечаканым сконе:
Сябра наш даўным-даўно памёр,
Толькі мы яго хаваем сёння!

## АБАРЫГЕН

Ходзіць вецер легканогі па праспекту,
Ледзь варушыць ліст каштанавых прысад.
Як чужы, як невядомы, прышлы нехта,
Быццам трапіў я ў цудоўны горад-сад.

Следу Ляхаўкі, з дзяцінства сэрцу мілай,
Серабранкі не пракмеціў анідзе,
Заблудзіўся ў камароўскіх даўніх вілах,
Разгубіўся у Татарскай слабадзе...

Што ж ты робіш са сваім абарыгенам,
Горад мілы, горад родны, горад мой?!
Паланёны навізною перамены,

Я гляджу здзіўленнем скуты, сам
не свой,
Як сцякае па шчацэ тваёй каменнай
Рэчка-Свіслач каламутнаю слязой!

## ШКАДА

Пушыцца белым покрывам зіма,
Змятае снегавей з рабіны гронкі.
На сцюжу снежань свой вядзе замах,
Лядком калюж пазваньваючы тонкім,

Так і было, так і было тады,
Калі ў адну дзве долі праглі скласці.
Асеў юнацкіх дум ружовы дым,
Датлеў даўно агеньчык кволы шчасця...

А так шкада, што крые сівізна,
Што чорт спакус не стукае у рэбры,
Што першазімкам лёгкім давідна

Нам не блукаць па шаранёвым срэбры,
Дзе цені дрэў у белым царстве сна,
На снег кладуцца паласатай зебрай...

## ЦАР

У народа майго не вяліся цары.
Больш князі. А яшчэ — Ефрасіння.
Ашчаслівіў быў цар гарадок на Дняпры
Дык яго і адтуль папрасілі.

Пасплывалі гады той грымотнай пары
То глыбокай, то плыткаю плынню.
Шмат у ступе вады натаўклі мы, сябры
Па нязнанай і знанай прычыне.

Вера ж наша жыве: хай благое сплыве
З каламутнай вадой ручаіны,
Бо на новы папас час імклівы заве

Па яшчэ не таптанай сцяжыне,
Толькі кажуць туды без цара ў галаве
Уваход на завалу зачынен!

## РОК-САНЕТ

Быццам джына выпусцілі з пляшкі,
Паспрабуй запхні яго назад.
Дзіка скачуць голыя мілашкі,
Ледзь прыкрыўшы банцікамі зад.

Нібы ў конскай збруі, ўвесь у бляшках
Утрапёна курчыцца саліст.
Скуль яна, нястрыжаная бражка,
Скуль грывасты хлюст, пісклявы хлыст?!

Скуль ён, той шаленства дух разгульны,
Лоўчы неспакушаных ахвяр?!
Прайдзісвету ў кодле тым утульна,

Наркаману тут лафа і фарт.
Запусці такіх зняnaцку ў джунглі —
Бедных малпаў выкасіць інфаркт!

сыну. Адзінае што — мог бы музыкант - асветнік запрасіць публіку не толькі на заўтрашнія мерапрыемствы «дзён», а і на вячэрні канцэрт, які сам жа вёў.

Дык вось, ніхто і нідзе не згадаў чамусьці, што Шагалаўскія дні — не адзіная падзея ў Віцебску, што адначасова праходзіць варты самай шырокай увагі фестываль, удзельнічаюць у якім лаўрэаты і дыпламанты самых розных музычных конкурсаў. І як жа ўсё было б цудоўна, каб не гэтая мяжа пасярод свята!

Тым часам у Гарадскім цэнтры культуры адкрыліся І Усесаюзныя Шагалаўскія чытанні, якія вёў актыўны арганізатар «дзён», вядомы віцебскі паэт Д. Сімановіч. Сярод прысутных — В. Быкаў, Р. Барадулін, навукоўцы з Расіі А. Шацкіх, У. Валадарскі, М. Бяссонава...

Думаю, нават і той, хто доўгі час бачыў Шагала ў крывым люстэрку, адпаліраваным не надта дасведчанымі ў мастацтве, затое выхаванымі ў традыцыях ідэалагічнай падазронасці людзьмі, дазнаўся б тут пра шмат што цікавае для сябе. Адкрыў бы, скажу так, дзівасвет мастака з дзіцячай — навыварат, як сны — фантазіяй. З невытлумачальным і зразумелым адначасова служэннем Віцебску, што быў для яго, як Ерусалім, «вечным горадам».

За гадзіны чытанняў багата было сказана пра пажыўны грунт культурных традыцый колішняга Віцебска, дзе віравала тэатральнае жыццё, дзе з традыцый мастацкай школы Пэна вырасла народная мастацкая школа Шагала, дзе была народная кансерваторыя і сімфанічны аркестр, якім не мог пахваліцца і Петраград і якім кіраваў знакаміты М. Малько. Гэта, дарэчы, ён пазнаёміў Салярцінскага з будучым блізкім сябрам — маладым Шастаковічам...

Згадваўся і 73-ці год, прыезд Шагала ў Маскву, ягоны пратэст супраць таго, каб вернісаж ладзілі ў Пушкінскім музеі, а яго, Шагала, лічылі замежным мастаком, і пажаданне зрабіць выстаўку ў Траццякоўцы — галерэі рускага, айчыннага мастацтва...

У гэткім поліфанічным кантэксце зусім адметна раскрывалася асоба Марка Шагала. З даклада М. Бяссонавай: «Пачуваў сябе класічнага тыпу «вандроўным жыдом», які жыве між Парыжам і Віцебскам, між Віцебскам і Масквой, між Віцебскам і Пецярбургам...» А гэта — з выказванняў Шагала: «Пачуваю сябе дрэвам, якому патрэбна свая зямля, свой дождж, сваё паветра... Удалечыні я жыў, як дрэва з радзімы, выдранае з карэннем, я быццам бы вісеў у паветры, але ўсё-такі жыў і рос... Я застаўся верны сваім бацькам з Віцебска... Я гэтак малюю таму, што я — яўрэй з Віцебска... Трэба толькі бачыць свет асаблівымі вачамі: быццам толькі што нарадзіўся».

Як лічаць спецыялісты, мастак інтэрпрэтаваў у выявах сярод іншага і яўрэйскі фальклор, выслоўі, многія з якіх ужо зніклі з гутарковага ўжытку, ды могуць быць рэканструяваны дзякуючы Шагалавым палотнам. Але выяўляецца і цесная сувязь яўрэйскага фальклору з беларускім, нават сюжэтна, а значыць — уплыў беларускіх народных традыцый на творчасць Шагала (уплыў паганскай падсвядомасці, «летуценна-лятучых» вобразаў). На думку М. Бяссонавай, «Шагал блізкі да традыцыі народных карцін ды народных ікон, якія былі менавіта тут, а не ў артадаксальнай праваслаўнай Расіі,— тут, ва ўзаемадачыненнях праваслаўя і каталіцтва». І яшчэ, «Хрысціянская сімволіка не менш значная для яго за старажытнаюдзейскую. Мастацтва Шагала — экуменізм асаблівага роду, падобнага прыкладу культура XX стагоддзя не ведае».

...Некалькі хвілін хады — і можна зноў агледзець экспазіцыю, што на два месяцы пасялілася ў карціннай галерэі. Паштоўкі старога Віцебска; сямейныя здымкі, пісьмы Шагала, кнігі, аформленыя ім; асобная зала жывапісу ягонага настаўніка Ю. Пэна; рэпрадукцыі карцін, падараваныя Беларусі ўраджэнкай Віцебска Н. Лежэ; арыгіналы работ: каляровыя літаграфіі, жывапіс. (У падрыхтоўцы экспазіцыі ўдзельнічалі Музей выяўленчых мастацтваў імя Пушкіна, Пскоўскі гісторыка-архітэктурны і мастацкі музей-запаведнік, Віцебскі абласны краязнаўчы музей).

...Калі б і пасля выстаўкі вы не захапіліся Шагалавым дзівасветам — па-клоўнску хуліганістым, па-малечы наіўным, па-ўсялюдску парадаксальным, дык... Дык ужо далі б, пэўна, веры, што, як сказала на вернісажы адна афіцыйная асоба, вяртанне мастака ў Віцебск, дзе будзе створаны і яго музей, — «гэта падзея не толькі для шагаламанаў, але і для нармальных людзей».

## Узвысім голас?

«Відушчае толькі сэрца. Вачамі ўсяго не ўбачыш». Дазволю сабе перайначыць Сент-Экзюперы: вушамі ўсяго не пачуеш. Не пачуеш — асабліва, калі тыя вушы прывучаныя слухаць ды чуць толькі скаргі, патрабаванні ды лямант. А хіба «ціхая» музычная інтэлігенцыя калі-небудзь захоча звярнуць на сябе ўвагу фанатычным енкам? «Ціхія інтэлігенты» спавядаюць фанатызм у адной іпастасі: як фанатызм ва ўласнай творчасці, у працы. Ды, відаць, нехта павінен ўзвысіць голас, каб «отверзлись сановные уши», каб прыслухаліся да тых, чыё мастацтва — не для загрубелай сярэднестатыстычнай савецкай душы, уцягнутай у вір бізнесвідовішчаў.

«Фестываляў камернай музыкі ў краіне вельмі мала, гэта некамерцыйная справа і ладзяць яе энтузіясты»,— слушна падкрэсліваў наш госць Д. Салярцінскі. Так, лепшыя на Беларусі музычныя фестывалі — і гэты, і Полацкі — плён падзвіжніцтва адзінак, а не калектыўнага розуму рэспубліканскага дэпартамента культуры. Дзіўна? Ну, чаму ж... У мастацтве, як мо нідзе, вырашальная сіла — асоба.

«Класік-Авангард», суполка асоб, захапіў сваімі ідэямі іншых. І вось ужо другі год запар, не маючы з таго ніякага прыбытку, фінансаваў фестываль ягоны спонсар, ці як нехта трапна сказаў — донар: Віцебскі навукова-вытворчы кааператыў «Лідэр». (Дзякуй Богу, ёсць там людзі з душою і свядомасцю мецэнатаў). Далучыліся, як змаглі, абласное аддзяленне Музычнага таварыства (вялікі арганізатарскі «воз» цягнуў намеснік старшыні У. Правілаў), абласное ўпраўленне культуры, аддзяленне Саюза мастакоў, Палац культуры і тэхнікі прафсаюзаў, тэатр імя Я. Коласа. Ад рэспубліканскага СТД за музыкантаў «хварэла» і дапамагала ім А. Саламаха.

Фінскія музыканты (9 чалавек) прыехалі на фестываль за кошт сваёй дзяржавы, такім чынам пакінуўшы нам, апроч успаміну пра мастацкія ўражанні, яшчэ і валюту (лёс якой пакуль невядомы).

А вось — кантраст: не выказалі нават простай цікаўнасці да музычнага фестывалю Міністэрства культуры БССР, Саюз кампазітараў (ці дакладней — беларускія кампазітары), абыякава паставіліся ў Віцебскім музвучылішчы (так і не была, напрыклад, зроблена выстаўка дакументаў, якія прывёз з Ленінграда сын Салярцінскага).

Ды і пра статус «Класік-Авангарда» не выпадае гаварыць у мажоры. Ансамбль належыць не Мінкульту, не філармоніі, нават не гарадскому ўпраўленню культуры (як, скажам, нованароджаная «Няміга»), а НВА «Метраном». Мне патлумачылі: гэтая будаўнічая ўстанова, якая з большай ці меншай стабільнасцю падтрымлівае ансамбль матэрыяльна, не можа даць тое, што звычайна забяспечвае музыкантам дзяржаўная канцэртная арганізацыя: залы для выступленняў, планаванне гастроляў, замежныя сувязі, рэкламу...

Дык што сабе думае Міністэрства культуры, што сабе думае кіраўніцтва БДФ, калі адводзіць вочы ад праблем «суполкі лаўрэатаў», высакакласнага ансамбля, маладога, працавітага, апантанага пошукамі — а значыць перспектыўнага і прэстыжнага для культуры Беларусі, якая імкнецца давесці, сцвердзіць сваю еўрапейскасць!

Сёння рэпертуар ансамбля — некалькі гадзін музыкі. Авангардысцкай, класічнай, рознай. Нават пракоф'еўскі балет «Трапецыя» іграюць, і без дырыжора. У планах — падрыхтоўка праграмы з новых або забытых твораў беларускіх аўтараў: праблема толькі са здабываннем цікавых нот. Калі жыццё не павернецца крута, дык у сакавіку паедуць на фестываль у Фінляндыю. Не таму, што камандзіруе дзяржава, а таму, што запрашаюць замежныя сябры — ім не сорамна будзе за гасцей з Беларусі. За мяжой увогуле ўмеюць шанаваць прафесійнае мастацтва, ці варта здзіўляцца росту колькасці вакансій у нашых аркестрах...

Не хачу і думаць, што нехта з удзельнікаў «Класік-Авангарда» можа таксама ў рэшце рэшт... Ансамбль павінен жыць! Бо У. Байдаў плануе на снежань ужо III фестываль, прысвечаны памяці Салярцінскага і адраджэнню лепшых, спадчынных культурных традыцый Віцебска — свайго роднага і дарагога для многіх горада. Бо з надзеяй і верай піша ў сваіх фестывальных нататках педагог Віцебскага музычнага вучылішча У. Карпенка: «Арыстакратызм духу — вось неацэнная адметнасць тых слухачоў, што ішлі на канцэрты. І што б ні сталася з намі, гэтага рабіць нельга, і гэтае пачынанне — як зарука іншай будучыні».

**С. БЕРАСЦЕНЬ.**

Фота У. БАЗАНА, Г. ЖУКАВА і БЕЛТА.

Віцебск — Мінск.

# ШУШКЕВІЧ Станіслаў Пятровіч



**1 лютага на 83-м годзе жыцця памёр вядомы беларускі паэт, член КПСС з 1965 года, персанальны пенсіянер рэспубліканскага значэння Станіслаў Пятровіч Шушкевіч.**

**Станіслаў Пятровіч Шушкевіч нарадзіўся 19 лютага 1908 года ў вёсцы Бакінава Дзяржынскага раёна Мінскай вобласці ў сям'і беззямельнага селяніна. Вучыўся ў Белпедтэхнікуме ў Мінску. Працаваў у Дзяржаўнай бібліятэцы БССР, загадваў бібліятэкай Навукова-даследчага інстытута сельскай і лясной гаспадаркі імя У. І. Леніна. Быў членам літаратурных арганізацый «Маладняк», БелАПП. Скончыў крытыкатворчае аддзяленне літаратурнага факультэта Вышэйшага педагагічнага інстытута імя М. Горкага ў Мінску. Працаваў у рэдакцыях газет «Літаратура і мастацтва», «Калгаснік Беларусі», «Звязда». Сталінскі рэпрэсіўны малох перарваў творчую працу С. Шушкевіча. З канца 1936 да канца 1944 года ён знаходзіўся ў турэмным і лагерным зняволенні. Потым — праца бухгалтарам, настаўнікам, а з 1949 па 1956 год зноў турма і ссылка ў Краснаярскі край. Вярнуўшыся на радзіму, С. Шушкевіч працаваў у рэдакцыях газет «Мінская праўда» і «Літаратура і мастацтва».**

**Творчы шлях С. Шушкевіча пачаўся яшчэ ў далёкім 1924 годзе. З-пад яго няўрымслівага пяра выходзяць у розныя гады лірычныя, поўныя чалавечае цеплыні і спагады зборнікі «Вершы», «Дарогаю вясны», «Услед за марамі», «Сябрам» і іншыя. Кніга ўспамінаў «Вяртанне ў маладосць», што пабачыла свет у 1968 годзе, расказала сучасніку пра трывожныя часы 20—30-х гадоў, пра людзей, якія жылі і працавалі на ніве беларускага мастацтва, пра здратаваныя шляхі сібірных пакутаў паэта-вязня. Але ніякія жыццёвыя нягоды не выстудзілі палымянага сэрца Станіслава Пятровіча. Праз гады ён пранёс цеплыню і любоў да роднае Беларусі, захаваў чысціню лагодных ранішніх прамянёў і блакітную цішу вечаровых зараніц. Гэтай дабрынёй сагрэты і шматлікія кнігі для дзяцей — «Лясная калыханка», «Сарочы церамок», «Мы на змену ідзём», «Гара Марата Казея», «Вясёлыя дзятлікі» і іншыя.**

**Яго любілі і юныя чытачы і дарослыя. Літаратурная і грамадская дзейнасць С. Шушкевіча знайшла народнае прызнанне. Яму прысвоена ганаровае званне заслужанага работніка культуры БССР.**

**Светлае слова, чуйныя радкі, добрыя чалавечыя справы пакінуў нам у спадчыну Станіслаў Пятровіч Шушкевіч. Памяць пра яго назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах.**

**А. У. РУСЕЦКІ, Н. М. МАЗАЙ, І. А. БРЫЛЬ, В. У. БЫКАЎ, П. Е. ПАНЧАНКА, Я. І. СКУРКО (Максім Танк), І. П. ШАМЯКІН, В. У. АДАМЧЫК, Р. І. БАРАДУЛІН, В. У. БЛАКІТ (Болтач), А. І. ВЯРЦІНСКІ, Н. С. ГІЛЕВІЧ, М. С. ГІЛЬ (Гілевіч), А. С. ГРАЧАНІКАЎ, А. П. ЖАЛЯЗОЎСКІ, С. І. ЗАКОННІКАЎ, В. В. ЗУЁНАК, Ц. В. КРЫСЬКО (Васіль Вітка), А. П. КУДРАВЕЦ, А. А. КАРАТАЙ (Максім Лужанін), Я. І. КАРШУКОЎ, У. С. ЛІПСКІ, В. А. ЛУКША, У. Б. НАРКЕВІЧ, У. П. НЯКЛЯЕЎ, У. А. ПАЎЛАЎ, А. У. ПІСЬМЯНКОЎ, Б. І. САЧАНКА, В. П. СУПРУНЧУК, І. Г. ЧЫГРЫНАЎ.**

## Адыходзіць цэлая эпоха...

**Адыходзяць нашы літаратурныя, нашы духоўныя бацькі. Нядаўна мы праводзілі ў апошні шлях Кандрата Крапіву. І вось у той жа шлях праводзім Станіслава Пятровіча Шушкевіча. Адыходзяць старэйшыны новай беларускай літаратуры, і з імі, у іх асобе адыходзіць эпоха цэлая — і не толькі ў літаратурным, але і ў грамадска-палітычным жыцці беларускага народа. Бо яны, нашы бацькі, нашы старэйшыны, былі не толькі пісьменнікамі: яны былі актыўнымі ўдзельнікамі падзей, былі сынамі свайго часу...**

**Адыходзіць цэлая эпоха. Эпоха, якая пачыналася вялікай ломкай і якая вялікай ломкай, вялікім, драматычным (калі не трагічным) пераломам канчаецца.**

**Вялікае месца ў жыццёвай і творчай біяграфіі Станіслава Пятровіча заняла газета «Літаратура і мастацтва». З ёй ён звязаў свой лёс з самага заснавання, у гады маладосці; у рэдакцыю «ЛіМа» ён вярнуўся пасля вяртання з Сіблага, у рэдакцыю «ЛіМа» ён заходзіў да апошняга часу...**

**Менавіта тут мы з ім пазнаёміліся, тут мы разам супрацоўнічалі, сустракаліся, вялі гутаркі. Помню, як недзе восенню 64-га года Станіслаў Пятровіч зайшоў да мяне ў пакой і, сказаўшы сваё звычайнае, вельмі характэрнае для яго «Вы ведаеце», прызнаўся, што напісаў аўтабіяграфію і што хацеў бы параіцца. Ён раіўся, як, у якіх словах, лепш сказаць пра рэпрэсіі, пра свой лёс — лёс сталінска-берыеўскага вязня. Да гэтага часу ўжо канчалася хрушчоўская адліга і пачыналіся брэжнеўскія замаразкі з бездарожжу папалам. Станіслаў Пятровіч спыніўся на словах: «ад мяне адабралі свабоду...», «ткалася злачынства» і г.д.**

**Уразілі мяне таксама, помню, заключныя словы аўтабіяграфіі: «Любая радзіма, мой любы народ, я ведаю, што мала зрабіў для тваёй славы, для тваёй сілы, для твайго шчасця. Ты мне даруй за гэта. Але ж я яшчэ зусім юны. Мне здаецца, што мой юнацкі голас адзываецца ў родным Бакінаўскім лесе...»**

**Так яно і ёсць, дарагі Станіслаў Пятровіч. Ваш па-юначаму звонкі голас адзываецца ў Бакінаўскім лесе. І хай будзе пухам Вам наша родная беларуская зямліца...**

**Анатоль ВЯРЦІНСКІ.**

## Апошняя дарога

Памяці С. П. ШУШКЕВІЧА

**Не завіруха**
**У сэрцы сваволіць —**
**Жальбай у ім**
**Станіслаў Пятровіч,**
**Працавіты і справядлівы,**
**Няўрымслівы і цярплівы.**
**Дарогі цяжкія**
**Лёс крыжавалі,**
**Несправядлівасцю**
**Кроў бунтавалі —**
**Імі ішоў ён**
**Горда і годна**
**З верай і праўдай,**
**З моваю роднай.**
**Словы знаходзіў**
**Дарослым і дзецям,**
**Шчырыя словы,**
**З народным сукveццем.**
**Смутак і радасць**
**І да бацькоўскага кута**
**Дарогі давалі**
**Вярталі.**
**З гэтай дарогі**
**Вяртання няма:**
**След зацярушыць**
**Жалобна зіма.**

**Ніна ГАЛІНОЎСКАЯ.**

**Саюз пісьменнікаў Беларусі глыбока смуткуе з прычыны смерці пісьменніка, заслужанага работніка культуры БССР Станіслава Пятровіча ШУШКЕВІЧА і выказвае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.**

**Калектыў рэдакцыі тыднёвіка «Літаратура і мастацтва» глыбока смуткуе з прычыны смерці старэйшага беларускага пісьменніка, былога лімаўца Станіслава Пятровіча ШУШКЕВІЧА і выказвае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.**



Іван ЧЫГРЫНАЎ

# ХТО ВІНАВАТЫ

## Драматычная фантазія на чарнобыльскую тэму ў дзвюх дзеях

### Дзейныя асобы:

**ЭДУАРД ЛЕВАНОВІЧ — вучоны-энергетык.**
**ГАСПАДЫНЯ кватэры — яго жонка Людміла Міхайлаўна.**
**АНДРЭЙ ЛЕВАНОВІЧ — брат Э. Левановіча, лётчык з падраздзялення так званай «кліматычнай вайны».**
**ПІСЬМЕННІК Павел Дзямідавіч.**
**АНТАНІНА І ВАЛЬДЭМАР — проста муж і жонка, нейкія сябры Левановічаў.**
**АНАТОЛЬ ІВАНАВІЧ, ДАЎГУЧЫЦ — таксама сябры Левановічаў.**
**КАМАНДЗІР ПАДРАЗДЗЯЛЕННЯ.**
**КАПІТАН—І, КАПІТАН—ІІ.**
**АЛЯКСЕЙ СЕВАСЦЯНАВІЧ — сакратар партыйнага камітэта.**
**СЯЛЯНЕ — першы, другі, трэці.**
**ЛЯСНІК, ПЧАЛЯР — альбо першы мужык, другі мужык.**
**РАМАН АНТОНАВІЧ — дырэктар саўгаса.**
**ДЗІНА ДАВЫДАЎНА — вясковая настаўніца.**
**КАРЭСПАНДЭНТ (з экрана).**
**МІЛІЦЫЯНЕР І ЦЫВІЛЬНЫ.**

АНАТОЛЬ ІВАНАВІЧ. Цікава, аўтара так і не знайшлі?

ВАЛЬДЭМАР. Дзе яго знойдзеш? Ананімны твор.

АНАТОЛЬ ІВАНАВІЧ. У наш час ды ананімны?

ВАЛЬДЭМАР. Крыміналісты перабольшваюць сваё аналітычнае значэнне. КэГэБэ таксама. На абываталя разлічана.

АНАТОЛЬ ІВАНАВІЧ. Вось што значыць галоснасць, дэмакратыя!.. Нават дзяржаўную бяспеку ўжо бяруць пад сумненне.

ВАЛЬДЭМАР. Пабойцеся Бога, Анатоль Іванавіч, я не дзяржаўную бяспеку бяру, як вы кажаце, пад сумненне. Вы мяне не так зразумелі. Я меў на ўвазе цяперашнія тэхнічныя магчымасці крыміналістыкі.

АНТАНІНА. Кіньце вы, а то, не дай Бог, і праўда дагаворыцеся.

АНАТОЛЬ ІВАНАВІЧ. Во-во, Антаніна Бацькаўна, сачыце за мужам, не давайце яму язык распускаць, дарма што на двары перабудова. Нябось, вершык гэты ведаеце?

Товарищ, верь,
Пройдет она,
Так называемая гласность,
И комитет госбезопасности
Припомнит наши имена.

АНТАНІНА. Вучыся ў Анатоля Іванавіча, Вальдэмарчык.

ВАЛЬДЭМАР. Але ж Анатоль Іванавіч мастак даводзіць гаворку да небяспечнага моманту. Колькі помню, кожны раз вось гэтак — усе вінаваты, адзін ён...

АНАТОЛЬ ІВАНАВІЧ **(паднімае рукі).** Цур-цур-цур!... Ведаеце, як мае прозвішча па-балтцку? Без блох. Так што... Шукайце вінаватых у іншым месцы.

**Заходзіць Андрэй.**

АНДРЭЙ. Глуха.

АНТАНІНА. Нават на братаў званок не адказвае?

ГАСПАДЫНЯ. Ладна, Андрэй, брат сабе як хоча, а мы... У нас ёсць і выпіць што і закусіць чым, а найперш — госці. Будзем сядаць за стол. Ты нясі з ванны напіткі, а я хуценька зноў на кухню. Хто мне паможа?

АНДРЭЙ. А я і памагу. Прынясу бутэлькі, потым пачну закусь насіць з кухні.

**Людміла Міхайлаўна з дзеверам выходзяць.**

ВАЛЬДЭМАР **(да Даўгучыца).** Дык што там на пісьменніцкім з'ездзе? У іх, нашых пісьменнікаў, хоць што, хоць дробненькае, але здарыцца. Дык што сёлета?

ДАЎГУЧЫЦ. Усё тое ж — як вясной каля купіны, калі жабы ікру кладуць. Топчуць адзін аднаго. Але я не пра гэта хацеў. Зрэшты, пра з'езд вам раскажа дэлегат. Нябось, Людміла Міхайлаўна не забыла пра свайго куміра?

**Заходзіць з падносам Гаспадыня.**

ГАСПАДЫНЯ **(пачуўшы Даўгучыцавы словы).** І не забыла, і запрасіла, і на першы тост змовіла. **(Ставіць талеркі на стол.)**

АНТАНІНА **(паказваючы на паднос).** Хто цяпер носіць?.. Цяпер, Людмілачка, возяць посуд са стравамі на калёсіках. Адстаяце ад людзей, Левановічы!

ГАСПАДЫНЯ. За людзьмі, Антанінaчка, усё роўна не ўгонішся. Асабліва пры такім гаспадару, як мой. Ну, дзе яго носіць?

АНТАНІНА **(смяецца).** А можа, гэта і добра, што мы тут без яго будзем. Няхай яму там ікнецца.

ГАСПАДЫНЯ **(ужо нібыта ўзлавана).** Дзе гэта там?

АНТАНІНА. Ну...

ГАСПАДЫНЯ. Хіба што... Ты тут, Тонечка, сярод мужчын разбэшчваешся... Хадзем-тка лепей паможаш мне на кухні.

АНТАНІНА. Я ж даўно прапанавала табе свае паслугі.

ВАЛЬДЭМАР. Дапусцім, не ты сама, а я спрабаваў цябе надаўмець.

АНТАНІНА **(пляскае мужа па руцэ).** А ты вечна!.. Падхалім!

**Заходзіць з бутэлькамі Андрэй.**

АНДРЭЙ. Хто падхалім?

ДАЎГУЧЫЦ. Ды ўсе мы тут, таварыш старшы лейтэнант, падхалімы. Нявестку тваю ўлашчваем, каб без вячэры не застацца.

АНТАНІНА. Ды што вы нам хацелі расказаць, пан Даўгучыц?

ДАЎГУЧЫЦ. Ды вось ніяк не ўзаб'юся на першы сказ. Усё нечым заняты важным. А пра галоўнае...

АНАТОЛЬ ІВАНАВІЧ. Хто скажа — што цяпер галоўнае?

ДАЎГУЧЫЦ. Галоўнае — заўсёды ў мінулым. Цяпер, бачыце, за Сталіна моцна бяруцца. Героямі становяцца Бухарын, Каменеў...

АНАТОЛЬ ІВАНАВІЧ. Ну, тут даўно ўсё зразумела. Раз узнікаюць гэтыя постаці, значыць, наступны з гістарычнай цемры выйдзе Леў Давыдавіч.

ДАЎГУЧЫЦ. Ты так думаеш?

АНАТОЛЬ ІВАНАВІЧ. А тут і высільвацца дужа не варта.

ДАЎГУЧЫЦ. Як сказаць. Але паслухайце.

АНТАНІНА. Ну так, пра галоўнае... А хто такі Леў Давыдавіч?

АНАТОЛЬ ІВАНАВІЧ. Лейба.

АНТАНІНА. Хто-хто?

ДАЎГУЧЫЦ. Анатоль Іванавіч усё яшчэ гуляе ў канспірацыю. Леў Троцкі.

АНТАНІНА. А што, Анатоль Іванавіч у нас антысеміт?

АНАТОЛЬ ІВАНАВІЧ. Ну, вы і скажаце, Антаніна Бацькаўна.

АНТАНІНА. Дарэчы, у майго бацькі імя ёсць, таксама штосьці падобнае на Лейбу.

АНАТОЛЬ ІВАНАВІЧ. Дагаворвайце. Як гэта павінна гучаць — Лейбаўна?

ДАЎГУЧЫЦ. Ат, гаворыце абы пра што!.. Лепей і праўда паслухайце. Гэта мне расказаў сёння адзін журналіст. Чарненка, калі яшчэ жыў Брэжнеў, а Чарненка загадваў у ЦэКа кадрамі, сабраў у Маскву з усёй краіны загадчыкаў аддзелаў арганізацыйна-партыйнай работы. Парадак дня нарады вызначаны не быў, але хадзілі ціхія чуткі, што на ёй будзе Брэжнеў. Усе прыехалі з тоўстымі партфелямі, набітымі паперамі на кожны выпадак. І вось выходзіць з бакавога пакою Чарненка, а за ім... Не, не так. Спачатку выносяць велічэзны партрэт Другога Ільіча, а ўжо за ім выходзіць Чарненка.

АНАТОЛЬ ІВАНАВІЧ. Дык дзе ж тут галоўнае?

ДАЎГУЧЫЦ. Пачакай, гэта я, відаць, нецікава расказваю. Словам, два лэйбусы патрымалі з паўгадзіны на руках партрэт, тады Чарненка пытае ў загадчыкаў аддзелаў арганізацыйна-партыйнай работы — ну, як, падабаецца вам наш дарагі Леанід Ільіч? Так, так, заківалі галовамі загадчыкі. Ну вось, усё роўна як з палёгкай уздыхнуў Чарненка, і загадаў выносіць партрэт. Загадчыкі думалі, што пасля гэтага нарэшце пачнецца нарада, але не. Чарненка падзякаваў усім, хто прыехаў на нараду, і распусціў.

АНАТОЛЬ ІВАНАВІЧ. Гэтую сцэну ў кіно паказваць бы.

АНТАНІНА. Дык хіба не паказвалі самога Чарненку? Ужо амаль мёртвага. У бальніцы. Грышын падняў Генеральнага з ложка, падпёр нейкімі калкамі ззаду і загадаў кінахранікёрам здымаць.

АНАТОЛЬ ІВАНАВІЧ. Было, было і такое. Грышын хацеў быць Генсекам услед за Чарненкам, а перад тым Чарненка імкнуўся пераняць уладу ад Брэжнева. Цікава, як гэта Гарбачову ўдалося прабіцца на першае месца?

ДАЎГУЧЫЦ. Пакуль тайна.

АНАТОЛЬ ІВАНАВІЧ. Ах, гэтыя тайны. Крамлёўскія тайны. Дарога для іх адтуль пакуль адна — альбо ў анекдоце выскачыць, альбо ў прамежках паміж зменай каравула, калі расчыняюцца на нейкі момант жалобныя вароты.

ГАСПАДЫНЯ. Была я сёння на рынку, што-кольвечы дакупіць да стала. Дык там нейкі юродзівы выступаў. Я ажно здзівілася, чаму не забірае яго міліцыя?

ДАЎГУЧЫЦ. Было за што?

ГАСПАДЫНЯ. Ды ў нас цяпер любога бяры і саджай за доўгі язык. Вас тут — кожнага.

АНАТОЛЬ ІВАНАВІЧ. То й гаспадыньку тады!

ГАСПАДЫНЯ. А я і не адмаўляюся.

АНТАНІНА. Вечна мы вось так — чалавек хоча нешта сказаць, а мы ўжо напагатове, наморднік на яго. Дайце Людмілачцы дагаварыць. Ну, дык што там юродзівы?

ГАСПАДЫНЯ. Бэсціў усіх, Тонечка, бэсціў. Прадказваў канец свету. Казаў, што па святому пісанню прынясе яго з сабой нейкі мечаны. Пра Гарбачова ён не заікаўся. Але ўсе зразумелі, што якраз Гарбачоў і меўся на ўвазе. У яго ж на галаве знак.

АНАТОЛЬ ІВАНАВІЧ. Ну вось, а вы кажаце — няма за што вас саджаць. Як гэта там сказана?

ВАЛЬДЭМАР. Дзе?

АНАТОЛЬ ІВАНАВІЧ. Ну, у тым вершыку. Пра галоснасць, ЧаКа і перабудову.

ВАЛЬДЭМАР. Пабойцеся Бога, Анатоль Іванавіч. Вы ж самі яго нядаўна дэкламавалі.

АНАТОЛЬ ІВАНАВІЧ. Няўжо? Якая неасцярожнасць!

ВАЛЬДЭМАР. Альбо знарочыстасць.

АНАТОЛЬ ІВАНАВІЧ. Выходзіць, што я правакатар?

АНТАНІНА **(ускідваецца).** Ну-ну, хлопчыкі!

ГАСПАДЫНЯ. Але ж трэба хутчэй саджаць вас за стол, а то звярэеце. **(Выходзіць.)**

АНТАНІНА. Нам бы хіраманта цяпер сюды.

ВАЛЬДЭМАР. Ці хоць бы цыганку.

АНТАНІНА. Кажуць, экстрасенсы хутка будуць мець...

АНАТОЛЬ ІВАНАВІЧ. Можа, і праўда перакваліфікавацца?

АНТАНІНА. А што? Адзін мой знаёмы так і зрабіў.

АНАТОЛЬ ІВАНАВІЧ. Ну і што, дасягнуў поспеху?

АНТАНІНА. Ва ўсякім разе, падае надзеі. Але... Словам, яшчэ ўсё наперадзе. А таварыш Гарбачоў сапраўды чалавек... Ну, незразумелы. Прынамсі, для мяне.

ДАЎГУЧЫЦ. Навошта дарэмна непакоіцца? Няхай ён сабе працягвае цараваць над намі, а мы будзем...

АНАТОЛЬ ІВАНАВІЧ. А мы?

АНТАНІНА. А мы будзем тым часам патрохі пляткарыць пра яго.

ДАЎГУЧЫЦ. А найбольш — пра яго жонку, Раісу Максімаўну.

АНАТОЛЬ ІВАНАВІЧ. Дарэчы, чаму да яе так нядобра ставяцца жанчыны?

АНТАНІНА. Хіба толькі жанчыны?

АНАТОЛЬ ІВАНАВІЧ. Ва ўсякім разе...

АНТАНІНА. Ва ўсякім разе, няхай дужа не вылазіць наперад мужа.

АНАТОЛЬ ІВАНАВІЧ. Усёткі зайздрасць?

ДАЎГУЧЫЦ. Ну, тут штосьці іншае. Можа, вінаваты найперш погалас людскі. Гэта як перад вывяржэннем вулкана. Людзі глуха наракаюць на штосьці, а ніхто пакуль не разумее — праз што, дзеля чаго. Таму і вінаватых шукаюць не там, дзе трэба. Ну, а тут Раіса Максімаўна... Як не ўключыш тэлевізар, дык яна. Ды наперад усіх.

АНАТОЛЬ ІВАНАВІЧ. Нічога, прывыкнеце.

ВАЛЬДЭМАР. Было б дзеля чаго.

АНАТОЛЬ ІВАНАВІЧ. Гэта ўжо лёс такі ўсіх царыц.

АНТАНІНА. Але ж і размовы сёння ў нас!

ДАЎГУЧЫЦ. Дык яны ва ўсіх цяпер такія размовы. Дападзі да столі ці да падлогі — ва ўсіх кватэрах пра адно і тое ж: глухія нараканні, далёкае клакатанне лавы пад зямлёй. Так што... А што наконт усяго гэтага ваш знаёмы гаворыць?

АНТАНІНА. Які?

ДАЎГУЧЫЦ. Ну, той, што падаўся ў хіраманты.

ВАЛЬДЭМАР. Навошта хірамант? Усё ўжо прадказана. У Бібліі.

ДАЎГУЧЫЦ. У Бібліі?

ВАЛЬДЭМАР. Ну так, у Бібліі. Недзе ж у Левановічаў ёсць Біблія?

**Устае з канапы, ідзе ў сумежны пакой, прыносіць адтуль кнігу.**

АНТАНІНА **(працягвае руку).** Пакажы!

ВАЛЬДЭМАР. А ці дастойна ты ўзяць у рукі ды зняць з яе пячаткі? **(Да Анатоля Іванавіча.)** Дзе тут?.. У якім раздзеле найбольш прадказанняў?

АНАТОЛЬ ІВАНАВІЧ. Адгортвай апошнія старонкі ў новым пісанні — Іаана Багаслова.

ВАЛЬДЭМАР **(чытае).** І калі ён зняў чацвёртую пячатку, я пачуў голас чацвёртай жывёліны, якая гаварыла: ідзі і глядзі. І я глянуў, і вось, конь бляды, і на ім коннік, якому імя смерць; і пекла рухалася за ім і дадзена яму ўлада над чацвёртаю часткай зямлі — забіваць мечам і голадам, і морам і звярамі зямнымі...

АНАТОЛЬ ІВАНАВІЧ. Гэта не зусім тое, Вальдэмар. Дайце мне.

**Вальдэмар падае кнігу. Анатоль Іванавіч шукае знаёмае месца ў ёй.**

АНТАНІНА. Вы пра самае жахлівае, што будзе...

АНАТОЛЬ ІВАНАВІЧ **(чытае).** І сем ангелаў, якія мелі сем труб, падрыхтаваліся трубіць. Першы ангел пратрубіў, і выдаў град і ўспыхнуў агонь, змяшаныя з крывёю, і ўпалі на зямлю; і трэцяя частка дрэў згарэла, і ўся трава зялёная згарэла. Другі ангел пратрубіў, і нібыта вялікая гара, палаючы агнём, абрынулася ў мора; і трэцяя частка мора зрабілася крывёю. Тады пратрубіў трэці ангел, і ўпала з неба вялікая зорка, што гарэла нібыта свяцільнік, і пала на трэцюю частку рэк і на вытокі вод. Імя гэтай зорцы палын; і трэцяя частка вод зрабілася палыном, і многія з людзей памерлі ад вод, таму што яны сталі горкія. Чацвёрты ангел пратрубіў...

**Чуецца званок у дзверы. Андрэй ідзе ў калідор адчыняць. Трымаючы ў руках Біблію, Анатоль Іванавіч чакае, пакуль зойдзе ў пакой хтосьці новы.**

АНТАНІНА **(спрабуе адгадаць).** Госць ці гаспадар?

ВАЛЬДЭМАР. Гаспадар...

ДАЎГУЧЫЦ. Госць...

ВАЛЬДЭМАР. А можа, кеге-бе-е-е?

**(Працяг на стар. 14—15).**

# ХТО ВІНАВАТЫ

(Пачатак на стар. 12—13).

**Адчыняюцца дзверы, заходзіць з кветкамі Павел Дзямідавіч.**

ПІСЬМЕННІК. Рад бачыць старую, але пачэсную кампанію. Дзе ж імяніннік?

ДАЎГУЧЫЦ. Імяніннік, Павел Дзямідавіч, яшчэ на рабоце.

ПІСЬМЕННІК. Колькі ж яе ў яго, тае работы?

АНТАНІНА. А ён за ўсіх.

ПІСЬМЕННІК. Ну што ж, ён за нас, а мы за яго.

**Заходзіць гаспадыня.**

ГАСПАДЫНЯ. Павел Дзямідавіч правільна кажа — ён недзе за нас, а мы за яго.

ПІСЬМЕННІК. Дазвольце, Людміла Міхайлаўна, пацалаваць ручку. І гэтыя кветкі вам нёс.

**Гаспадыня бярэ ад яго кветкі, стаўляе ў вазу.**

ГАСПАДЫНЯ. Знаёміць вас не трэба?

**Госці рассаджваюцца вакол стала.**

ПІСЬМЕННІК **(акурат устрывожана)**. І што, вось так, не будзем чакаць імянінніка?

ГАСПАДЫНЯ **(какетліва)**. І не будзем, Павел Дзямідавіч!

ПІСЬМЕННІК. Што вы тут чыталі?

АНАТОЛЬ ІВАНАВІЧ. Біблію.

ПІСЬМЕННІК. Раней да Маркса звярталіся, да Леніна.

АНАТОЛЬ ІВАНАВІЧ. Можа, таму, што пра Біблію забылі?

ПІСЬМЕННІК. Я пра Біблію ніколі не забываў. Пісьменнік без Біблії, можна сказаць, нішто. Іншая справа, што спасылкі на Біблію ў мяне выкрэслівалі. А вы што, Анатоль Іванавіч, цяпер у галіне багаслоўя практыкуеце?

АНАТОЛЬ ІВАНАВІЧ. Я — гісторык шырокага профілю. Да гэтага мы проста, часам, гаварылі па Біблії, але не ўпаміналі яе.

**Гаспадыня ляскае відэльцам па бутэльцы.**

ГАСПАДЫНЯ. Павел Дзямідавіч, за вамі першае слова.

ПІСЬМЕННІК. Тост без імянінніка?

ГАСПАДЫНЯ. Думаю, Левановіч не пакрыўдзіцца.

ПІСЬМЕННІК. Гэты наш Левановіч... Анекдот. Толькі навошта мне ўдзельнічаць у гэтым анекдоце?

АНТАНІНА. Вы скажыце свой тост, а ўсё астатняе пойдзе, як трэба.

ПІСЬМЕННІК. Ну то... за нашага імянінніка. Няхай яму...

**Госці выпіваюць, накідваюцца на закусь.**

ДАЎГУЧЫЦ **(да пісьменніка)**. Што там на з'ездзе было пасля?

ПІСЬМЕННІК. Калі вы пайшлі?

ДАЎГУЧЫЦ. Пасля вашага выступлення.

ПІСЬМЕННІК. Значыць, з'езд прайшоў без вас, калі вы гэтак рана пайшлі з яго. Адбыліся выбары. Я больш не сакратар. Супроць мяне прагаласавала адна чацвёртая частка членаў Саюза пісьменнікаў. Пасля гэтага сакратар ЦэКа сказаў мне, што сакратарыят ЦэКа рашыў не рэкамендаваць мяне.

ДАЎГУЧЫЦ. Але па вас не відаць, што вы апынуліся без пасады?

ПІСЬМЕННІК. Падумаў раптам: трэба рыхтавацца да старасці. Усё роўна калісьці давядзецца пра гэта дбаць. Пісьменнік павінен думаць увесь час пра старасць.

АНТОН ІВАНАВІЧ. Гм, а мне здавалася, што ваш брат заўсёды павінен быць малады.

ПІСЬМЕННІК. Гэта вам сапраўды так здавалася. Бо, мусіць, не ведаеце, што азначае — кэбэжэ?

АНАТОЛЬ ІВАНАВІЧ. Звычайная абрэвіятура і нічога больш.

ПІСЬМЕННІК. Гэта, дарагі мой Анатоль Іванавіч, расшыфроўваецца так: калі буду жывы. Леў Талстой з самае маладосці ў дзённіках сваіх гэтак пісаў, загадваючы нешта наперад. І яшчэ ён часта гаварыў — пабойся Бога, бо паміраць жа давядзецца.

АНТАНІНА. Нешта ў нас сёння альбо абрэвіятуры нейкія, альбо... Дзе той гаспадар?

ПІСЬМЕННІК. Дзіўна было б, калі б ён цяпер знаходзіўся тут.

ГАСПАДЫНЯ **(устрывожана)**. Як гэта?

ПІСЬМЕННІК. Радыяцыя павышаная. Сёння ўвесь дзень пра гэта на з'ездзе шапталіся. Кажуць, заходнія радыёстанцыі перадаюць.

ВАЛЬДЭМАР. Цікава, пры павышанай радыяцыі гэта дазваляецца ўжываць? **(Бярэ са стала пляшку, пстрыкае пальцамі другой рукі па шкле.)**

ДАЎГУЧЫЦ. Па ўсім відаць, дарэмна мы пачыналі без гаспадара. Прафесар ужо б дакладна адказаў на такое пытанне.

ГАСПАДЫНЯ **(гэтак жа ўстрывожана)**. Ладна, памаўчыце-тка! **(Да пісьменніка.)** Павел Дзямідавіч, а калі сур'ёзна? Што там буржуі перадаюць?

ПІСЬМЕННІК. Далібог, Людміла Міхайлаўна, дакладна нічога не ведаю. Заняты быў увесь дзень з'ездаўскімі інтрыгамі. Але...

**Звоніць тэлефон. Гаспадыня ўскоквае, бяжыць у калідор. Тады гукае адтуль.**

ГАСПАДЫНЯ. Андрэй, гэта цябе!

**Андрэй вылазіць з-за стала, выходзіць. З ім у калідоры застаецца і нявестка.**

АНДРЭЙ **(бярэ трубку)**. Так, я. **(Слухае.)** Так точна. Выязджаю. **(Кладзе трубку.)**

ГАСПАДЫНЯ. Што гэта значыць — выязджаю?

АНДРЭЙ. А тое, Людміла Міхайлаўна, што кароткатэрміновы адпачынак мой, здаецца, ляснуў. Выязджаю кіеўскім цягніком да месца службы. Уранні павінен быць у часці.

ГАСПАДЫНЯ. Што-небудзь здарылася?

АНДРЭЙ. Хто ж пра гэта па тэлефоне скажа? Так што, абнімі за мяне брата. Няхай даруе, што не дачакаўся.

ГАСПАДЫНЯ. Ты ж хоць паспееў перакусіць? Ці яшчэ пасядзіш?

АНДРЭЙ. Загад ёсць загад — трэба ехаць. Неадкладна.

ГАСПАДЫНЯ. Як жа яны цябе знайшлі?

АНДРЭЙ. Мае адрасы па ўсім ланцугу, дзе бываю. Справа не хітрая і даволі дэталёва адпрацаваная. Я вось думаю, як мне зрабіць—ці то па-англійску знікнуць, ці то развітацца з гасцямі.

ГАСПАДЫНЯ. Ідзі, пакажыся.

**Андрэй вяртаецца да гасцей. За ім ідзе Людміла Міхайлаўна.**

АНДРЭЙ. Мушу пакінуць вас, дарагія таварышы...

ВАЛЬДЭМАР. Сабутыльнікі...

АНДРЭЙ. А хоць бы і так. З прыемнымі людзьмі нават горкую гарэлку салодка піць.

АНТАНІНА. Фу, Андрэй Сямёнавіч... Штосьці на вас не падобна гэта... Горкую гарэлку... піць... Вы лепей скажыце, што здарылася? Бамбяць?

АНДРЭЙ **(усміхаючыся)**. Увогуле — гэта ваенная тайна. Але і не бамбяць, і не страляюць. Служба. Спатрэбіўся на службе.

АНАТОЛЬ ІВАНАВІЧ. Ну вось. Выйшла, аказваецца, на праўду. Як гэта ў пісанні?

АНТАНІНА **(да Андрэя)**. І часта з вамі такое здараецца? Ну, што раптам выцягваюць з-за стала?

ВАЛЬДЭМАР. Абы не з пасцелі...

АНТАНІНА. Памаўчаў бы!.. Не шкодзіла б, каб цябе таксама іншы раз вось гэтак!..

**Антаніна падыходзіць да лётчыка, цалуе. За ёй падыходзяць развітацца Вальдэмар, Даўгучыц... Адзін пісьменнік сядзіць панура за сталом і не кратаецца.**

**«Шчасліва вам»,— кажа Андрэй, выходзячы з пакою. Гасне святло.**

## *Карціна II*

**Прыцемак так і застаецца ў апусцелай кватэры Левановічаў. Ціха адчыняюцца дзверы, заходзіць гаспадар, ЭДУАРД ЛЕВАНОВІЧ. Гаспадар уключае святло, бачыць — на стале, як кажуць, папіта і паедзена. На канапе ляжыць ДАЎГУЧЫЦ. Ад зыркага святла прачынаецца.**

ДАЎГУЧЫЦ. Нарэшце і гаспадар стыкнуўся на двор.

ЛЕВАНОВІЧ. Бачу, і без мяне тут справіліся.

ДАЎГУЧЫЦ. Нездарма ж кажуць—калі Магамет не ідзе да гары, то гара ідзе да Магамета. Вось і мы...

ЛЕВАНОВІЧ. Памалацілі. Як на таку цапамі. Ты дык ажно ўхадокаўся, бачу.

ДАЎГУЧЫЦ. Ты не дужа накідвайся. Я ў Людмілы Міхайлаўны папрасіўся заначаваць. Сам ведаеш, дабірацца мне далёка. Ды й...

ЛЕВАНОВІЧ **(усміхаецца)**. Якраз вось у гэтым «ды й...» і сакрыта ўсё.

ДАЎГУЧЫЦ. А што ж рабіць скажаш, калі мне ў жыцці ўвогуле не шанцуе? Я ў цябе нават у туалет не грэбую хадзіць. Бо чэхаславацкі. А ў маім трэба стаяць пасля ўсяго над унітазам і падчышчаць. Ну, словам... Ды й канапа мая дзіравая стала. Урэшце, не без тваёй дапамогі, ты ж сам некалі спаў на ёй, калі не было куды падзецца.

ЛЕВАНОВІЧ. Сапраўды, канапа ў цябе мулкая. Застаецца толькі дзівіцца, чаму не замяніш?

ДАЎГУЧЫЦ. Прывычка, Эдуард Сямёнавіч, прывычка. Ну, што з таго выйшла, што жонку памяняў?

ЛЕВАНОВІЧ. Бачу, так і напрошваешся, каб шкадавалі? Без гэтага жыць не можаш. Але за гэта калі-небудзь і пабіць могуць.

**Адчыняюцца дзверы з другога пакою. Выходзіць у халаце Людміла Міхайлаўна.**

ГАСПАДЫНЯ **(да мужа)**. Я так і не разумею — ты гэта дзівачыш, ці што здарылася?

ЛЕВАНОВІЧ. Дзе Андрэй?

ГАСПАДЫНЯ. Выклікалі ў часць. Дарэчы, што ў яго за служба? Лётчык, а...

ЛЕВАНОВІЧ. Лётчык. Але служыць у камандзе так званай «кліматычнай вайны».

ГАСПАДЫНЯ. Ладна. Але чаму ты не гаворыш, дзе ты быў на свой дзень нараджэння?

ЛЕВАНОВІЧ. На рабоце. На Чарнобыльскай атамнай станцыі аварыя.

ДАЎГУЧЫЦ. Што гэта значыць?

ЛЕВАНОВІЧ **(сядае)**. Тое, што ў нас таксама павышаная радыяцыя.

ДАЎГУЧЫЦ. Калі гэта здарылася?

ЛЕВАНОВІЧ. Учора.

ДАЎГУЧЫЦ. Заходнія радыёстанцыі ўжо на ўсе галасы распавядаюць.

ГАСПАДЫНЯ. Ну і што ж будзе?

ЛЕВАНОВІЧ. Не ведаю. Пакуль справа засакрэчваецца. Але радыяцыя вялікая. У нас зашкаліла ўсе прыборы. Ёсць чуткі, што адзін з чатырох блокаў узарваўся.

ДАЎГУЧЫЦ. Гэта ж раўнасільна некалькім атамным бомбам!

ЛЕВАНОВІЧ. Так... Па радыяцыі...

ГАСПАДЫНЯ. Штосьці я не разумею. Пачакайце. Чарнобыль?.. Гэта ж недалёка, за некалькі кіламетраў ад нашай вёскі?! Там жа маці! Эдзік, там жа мая маці?!

ЛЕВАНОВІЧ. Я званіў у раён. Не дазваніўся.

ГАСПАДЫНЯ. О-о, Божа!.. **(Ідзе ў калідор да тэлефона.)**

ДАЎГУЧЫЦ **(да Левановіча)**. Раскажы падрабязна: што здарылася, чаму?

ЛЕВАНОВІЧ. Ніхто нічога не ведае. На ўсё наклала руку Масква. Але мы дазваніліся знаёмаму акадэміку — па яго словах выходзіць, што на станцыі ажыццяўлялі нейкі эксперымент.

ДАЎГУЧЫЦ. Якія могуць быць на атамнай станцыі эксперыменты? Спярша падарункі рабілі да дваццаць сёмага з'езда партыі, цяпер, бачыш, эксперымент. Вось і збылося прадказанне, хочаш вер, хочаш не вер. Мы тут, пакуль чакалі цябе, Біблію чыталі. Чарнобыль — гэта палын. Род палыну. Вось і выбухнула палын-зорка. Што ж цяпер будзе, Эдуард Сямёнавіч?

ЛЕВАНОВІЧ. Спытай пра што-небудзь лягчэйшае.

ДАЎГУЧЫЦ. Але ж ты вучоны... Энергетык...

ЛЕВАНОВІЧ. Атам даўно стаў палітыкай. Вось і цяпер справу бяруць у рукі палітыкі. Мы пачынаем даводзіць, што гэта вельмі небяспечна — выбух атамнага блока, а нам цыц, не панікуй! Я ўспамінаю сваё дзяцінства. Фронт у сорак першым затрымаўся на Бесядзі, на самым краю Беларусі, на паўднёвым усходзе. А Смаленск ужо к таму часу паў. Дык у нас мужыкоў палохалі, каб не расказвалі, што Смаленск здалі. Моў, панікёры, і ўсё тут. Аказваецца, кіраўнікі нашы нічому не навучыліся. Усё паўтараецца. Не ў тых формах, дык у гэтых, але паўтараецца.

ДАЎГУЧЫЦ. Дык што ж будзе?

ЛЕВАНОВІЧ. Бяда будзе, вось што! Катастрофа. Чарнобыльская радыяцыя ўжо над Скандынавіяй. Можаш уявіць, што робіцца вакол станцыі.

ДАЎГУЧЫЦ. Можа...

ЛЕВАНОВІЧ. Што — можа?

ДАЎГУЧЫЦ. Я падумаў, можа, трэба ўцякаць куды...

ЛЕВАНОВІЧ. Ад радыяцыі? Тым больш, што межаў распаўсюджання яе пакуль ніхто не ведае. Цэлы дзень сёння мы спрабавалі штосьці даведацца, удакладніць, але дарэмна. Далей свайго інстытута не здолелі прабіцца.

ДАЎГУЧЫЦ. Але Чарнобыльская станцыя на Украіне? Што ўкраінцы?

ЛЕВАНОВІЧ. Абстаноўка амаль такая ж... Ніхто дакладна нічога не ведае. Але некаторыя дзівакі радуюцца, што вецер учора дзьмуў не ў іх бок.

ДАЎГУЧЫЦ. Гэта як у анекдоце. Але ж учора на нас, заўтра — на іх. Дарэчы, а які вецер сапраўды ўчора быў?

ЛЕВАНОВІЧ. Паўночна-заходні.

ДАЎГУЧЫЦ. Значыць, сапраўды на нас дзьмуў?

ЛЕВАНОВІЧ. Выходзіць, так.

**Заходзіць Гаспадыня.**

ГАСПАДЫНЯ. Эдзік, я ніяк не магу дазваніцца!

ЛЕВАНОВІЧ. Куды ты звоніш? У маці ж тваёй тэлефона няма.

ГАСПАДЫНЯ. Затое ў школе ёсць. Ды і ў саўгаснай канторы тэлефоны стаяць ледзь не ў кожнага.

ЛЕВАНОВІЧ. Не старайся дарэмна. Туды цяпер не прабіцца. Да таго ж, ноч. Заўтра нашы вучоныя едуць на месца здарэння. У Чарнобыль. Так што...

ГАСПАДЫНЯ **(з неўразуменнем глядзіць на мужа)**. Што — так што?

ЛЕВАНОВІЧ. Тое, што я таксама еду. Адтуль пазваню ў раён. І ў вёску, да маці. І табе сюды. Супакойся.

ГАСПАДЫНЯ. Пра што ты гаворыш? Як я магу супакоіцца? У мяне ж там маці!

ЛЕВАНОВІЧ. Ну і што?

ГАСПАДЫНЯ. А тое, што твая маці далёка...

ЛЕВАНОВІЧ. Так, мая паспела памерці.

ГАСПАДЫНЯ. Ты гаворыш так, быццам рады гэтаму?

ЛЕВАНОВІЧ. Не крычы! Я стаміўся. Я вось вып'ю шклянку ды лягу.

ГАСПАДЫНЯ. Ну так, табе што? Тваёй маці небяспека не пагражае.

**Левановіч уздыхае: «Не губляй галавы». Даўгучыц налівае яму чарку, тады сабе: «Тваё здароўе!» Левановіч п'е моўчкі, затым налівае сам, зноў п'е і не бярэ нічога ў рот.**

ГАСПАДЫНЯ. Калі вы едзеце?

ЛЕВАНОВІЧ. Заўтра. Мне пазвоняць.

ГАСПАДЫНЯ. Я з табой таксама паеду.

ЛЕВАНОВІЧ. Туды, Люся, едуць спецыялісты. А не іх жонкі.

ГАСПАДЫНЯ. А ў мяне там маці!

ЛЕВАНОВІЧ. Ну, супакойся, супакойся!

ГАСПАДЫНЯ. Як гэта можна, што ніхто нічога не ведае?

ЛЕВАНОВІЧ. Чаму ж не ведаем? Ведаем, што ўзарваўся блок на Чарнобыльскай станцыі. Адсюль і вынікі. Ледзь не ваеннае становішча.

ГАСПАДЫНЯ. Я заўсёды баялася тваёй работы. Вось яна і паказала сябе.

ДАЎГУЧЫЦ. Людміла Міхайлаўна, пры чым тут Эдуард Сямёнавіч? Станцыю ў Чарнобылі не ён будаваў, не ён эксплуатаваў.

ЛЕВАНОВІЧ. І не я праектаваў.

ГАСПАДЫНЯ. Усе вы!.. Вунь Аляксандраў ледзь не пад ложкам у сябе збіраўся ставіць рэактар. А цяпер? Дзе ваш Аляксандраў? Словам, я еду на Палессе.

ЛЕВАНОВІЧ. Што табе рабіць на Палессі?

ГАСПАДЫНЯ. Там у мяне маці. Трэба забраць адтуль, калі яшчэ жывая.

ДАЎГУЧЫЦ **(да Левановіча)**. Няхай едзе. Якое ёй жыццё цяпер? Адна трывога. А я ўсё-ткі паспрабую дабрацца ў свой мікрараён. Можа, таксі падхаплю.

ЛЕВАНОВІЧ. Я ж не ведаў, што ты ў нас заначаваў, а то б машыну не адпускаў.

ДАЎГУЧЫЦ. Дарэчы, засцерагчыся ад радыяцыі можна?

ЛЕВАНОВІЧ. Практычна? Не. Трэба пакідаць заражаную тэрыторыю. А ўвогуле... Ніхто не гатовы да яе.

ДАЎГУЧЫЦ. Я так разумею, што... Словам, ратуйся не ратуйся, а канец вядомы. Ну, бывайце, таварышы Левановічы. Калі спатрэблюся — званіце. **(Выходзіць.)**

ГАСПАДЫНЯ **(да мужа)**. А гэта сапраўды страшна?

ЛЕВАНОВІЧ. Што — гэта?

ГАСПАДЫНЯ. Ну...

ЛЕВАНОВІЧ. Страшней не бывае.

**У кватэры зноў паціху настае змрок.**

## Карціна III

**Падраздзяленне так званай «кліматычнай вайны». Над картай, што на стале ў назіральнай вышцы, схіліліся вайскоўцы: КАМАНДЗІР ПАДРАЗДЗЯЛЕННЯ, ДВА КАПІТАНЫ.**

КАМАНДЗІР ПАДРАЗДЗЯЛЕННЯ. Бяда ў тым, што нашы самалёты — звычайныя машыны. Яны не прыстасаваны да такой работы. Лётчык нічым не абаронены ў небе ні знізу, ні з бакоў ад радыяцыі. Таму можна толькі ўяўляць, колькі мілірэнтгенаў кожны з нас атрымлівае ў гэта месца за адзін палёт. **(Ляпае ніжэй спіны).**

КАПІТАН-І **(смяецца).** Гэта вы вельмі дакладна, таварыш палкоўнік. І жывапісна.

КАПІТАН-ІІ **(панура ківае галавой).** Мала смешнага ў тым, што хтосьці нячутна і нябачна свідруе табе задніцу. **(Да палкоўніка.)** А што, калі нашым лётчыкам браць з сабой свінцовыя пласціны?

КАМАНДЗІР ПАДРАЗДЗЯЛЕННЯ **(падахвочвае гаварыць).** Ну-ну!

КАПІТАН-ІІ. Каб класці на сядзенне, пад тую ж задніцу.

ПАЛКОЎНІК. А з бакоў? Што з бакоў пакладзём?

КАПІТАН-ІІ. З бакоў пакуль нічога не прыдумалі класці.

КАМАНДЗІР ПАДРАЗДЗЯЛЕННЯ. Якая бездапаможнасць! Век атама, але як абараніць ад радыяцыі чалавека, ніхто не ведае. Вучоныя, маць іх так! Панахапалі зорак на грудзі, некаторыя сталі падобныя на выставачных выжлаў. Усё ў імя чалавека, усё на карысць народу. Дзе ж яна, тая карысць?

КАПІТАН-І. Самі-то яны для сваёй працы на рэактарах нейкія доспехі вынайшлі... У кіно паказваюць.

КАПІТАН-ІІ **(да палкоўніка).** Ці праўда, што на Чарнобыльскай АЭС рабіліся нейкія эксперыменты?

КАМАНДЗІР ПАДРАЗДЗЯЛЕННЯ. Чорт іх ведае! Але ўсё можа быць. Я мяркую па тым, як пісалі, здаецца, у лютым, «Известия» пра гэту станцыю. Дзіўна, як можна калектыву новай атамнай станцыі браць высокія абавязацельствы? Гэта значыць — працаваць за норму. Вось і падарунак да з'езда, вось і шандарахнула, маць іх!..

КАПІТАН-І **(глядзіць на гадзіннік).** Недзе ўжо Левановіч павінен падлятаць...

КАМАНДЗІР ПАДРАЗДЗЯЛЕННЯ. Хто ў нас наступны?

КАПІТАН-ІІ. Старшы лейтэнант Войцік.

КАМАНДЗІР ПАДРАЗДЗЯЛЕННЯ. А пра свінцовыя пласцінкі вы, відаць, жартуеце? Як кажуць, на бязрыб'і і рак рыба? Тым больш, што прынцып правільны. Усё-ткі свінец.

**На вышку ў лётным камбінезоне з авіяшлемам у руцэ заходзіць Андрэй Левановіч.**

АНДРЭЙ **(робіць стойку «смірна»).** Таварыш палкоўнік!..

КАМАНДЗІР ПАДРАЗДЗЯЛЕННЯ. Не да фармальнасцяў. Сядайце, старшы лейтэнант, расказвайце. Горача там?

АНДРЭЙ **(сядае).** Горача, таварыш палкоўнік. Чацвёрты блок станцыі ўсё яшчэ ў агні.

КАМАНДЗІР ПАДРАЗДЗЯЛЕННЯ. Чым яго цяпер тушаць?

АНДРЭЙ. Усё яшчэ пяском з верталётаў. Сёння на даху рэактара людзей ужо не відаць.

КАМАНДЗІР ПАДРАЗДЗЯЛЕННЯ. А што ў Прыпяці?

АНДРЭЙ. Спакойна. І ўвогуле, калі глядзець на зямлю з вышыні, то ўражанне, таварыш палкоўнік, дзіўнае — быццам нічога страшнага не здарылася. На Украіне — сады ў квецені, пасвіцца жывёла, на палях — трактары...

КАМАНДЗІР ПАДРАЗДЗЯЛЕННЯ. І ніякіх адзнакаў? Ну, знешніх?

АНДРЭЙ. Здаецца, лясы ў Беларусі жаўцеюць...

КАМАНДЗІР ПАДРАЗДЗЯЛЕННЯ. Дзіва што!.. Значыць, верталёты ў Чарнобылі працуюць?

АНДРЭЙ. Так точна, таварыш палкоўнік.

КАМАНДЗІР ПАДРАЗДЗЯЛЕННЯ. А мы адно назіраем ды атрымліваем кожны сваю дозу радыяцыі. Як ваш дазіметр?

АНДРЭЙ. Ён не разлічаны на такую дозу. Тут трэба буржуйскі.

КАМАНДЗІР ПАДРАЗДЗЯЛЕННЯ. Нават з гэтым да капіталістаў трэба з паклонамі ісці. Добра, старшы лейтэнант, пішыце справаздачу аб палёце і адпачывайце. Сёння ў вас, здаецца, яшчэ адзін вылет?

АНДРЭЙ. Так точна, таварыш палкоўнік.

КАМАНДЗІР ПАДРАЗДЗЯЛЕННЯ. Дарэчы, як вы адчуваеце сябе пасля палёту?

АНДРЭЙ. Ужо на сон хіліць.

**Палкоўнік доўга глядзіць на Андрэя, пасля пераводзіць, усё роўна як здранцвелы, позірк на капітана-ІІ, капітана-І...**

**Гаворыць радыё.**

**«Ад Савета Міністраў СССР. Як паведамлялася ў друку, на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі, размешчанай за сто трыццаць кіламетраў на поўнач ад Кіева, адбылася аварыя. На месцы працуе ўрадавая камісія... У яе састаў увайшлі кіраўнікі міністэрстваў і ведамстваў, вядомыя вучоныя і спецыялісты. Паводле папярэдніх дадзеных, аварыя адбылася ў адным з памяшканняў чацвёртага энергаблока і прывяла да разбурэння часткі будаўнічых канструкцый рэактара, яго пашкоджання і некаторай уцечкі радыёактыўных рэчываў...»**

КАПІТАН-І. На што-што, а на камісіі мы здатныя.

КАПІТАН-ІІ. Раз створана камісія, лічы — канцы ў ваду. Яшчэ ні адна камісія ў нашай краіне не даводзіла народу ні аб прычынах аварыі, ні аб іх выніках. Прынамсі, так, як гэта належыць рабіць.

АНДРЭЙ. Мяркуючы па тым, што я бачыў з самалёта, справа не ў «частцы будаўнічых канструкцый. Палае ўвесь рэактар.

## Карціна IV

**Вясковая вуліца. Калодзеж з журавлём. Сярод вясковых людзей — АЛЯКСЕЙ СЕВАСЦЯНАВІЧ, сакратар партыйнага камітэта. Тут жа ў натоўпе ЭДУАРД ЛЕВАНОВІЧ і яго жонка ЛЮДМІЛА МІХАЙЛАЎНА.**

АЛЯКСЕЙ СЕВАСЦЯНАВІЧ **(да сялян).** Няварта хвалявацца, таварышы хлебаробы. Абком партыі валодае сітуацыяй. Старшыня аблвыканкома паехаў у сталіцу...

СЕЛЯНІН-І. Сітуацыяй, дарагі таварышок, валодаць можна. Толькі як яе разумець? У вас валодаць сітуацыяй — гэта засцерагчы народ, як вы кажаце, ад панікі. А ў нас — ведаць сёння дакладна, што нам пагражае і што рабіць? Во, мужыкі кажуць, што гэта страшней за атамную бомбу, нават за ядзерную.

АЛЯКСЕЙ СЕВАСЦЯНАВІЧ. Глупства. Самі ж бачыце. Калі амерыканцы скінулі бомбы над Японіяй, там гінулі людзі. А ў нас?

СЕЛЯНІН-ІІ. Дак у нас пакуль... Мы пакуль і праўда жывыя.

АЛЯКСЕЙ СЕВАСЦЯНАВІЧ. І будзеце жыць.

СЕЛЯНІН-ІІІ. Але ж, кажуць, радыяцыя?

АЛЯКСЕЙ СЕВАСЦЯНАВІЧ. Ну, выпаў ёд. А вы ведаеце перыяд распаду ёду?

СЕЛЯНІН-І. Ну, што такое ёд, мы, здаецца, ведаем. Але вось як ён выпадае і распадаецца?..

АЛЯКСЕЙ СЕВАСЦЯНАВІЧ. То паслухайце. Ён нават карысны для чалавечага арганізма. Недахоп ёду выклікае базедавую хваробу.

СЕЛЯНІН-І. Дапусцім, гэта можна зразумець, дарагі таварышок. Але ж, відаць, і ён, калі залішне, стане шкодным?

АЛЯКСЕЙ СЕВАСЦЯНАВІЧ. Ну, якая шкода ад яго? Вось глядзіце. **(Бярэ вядро за вушкі, заводзіць яго над калодзежам, апускае на жураўлі ўніз, дастае ваду; нагінае аберуч вядро, са знарочыстым смакам п'е.)** Вось бачыце — я, ваш сакратар, п'ю і зусім не баюся.

СЕЛЯНІН-ІІ. Але скажыце, таварыш сакратар, якая каманда нам паступіць?

АЛЯКСЕЙ СЕВАСЦЯНАВІЧ **(разводзіць рукамі, ляпае імі па грудзях сабе).** Ну якая вам яшчэ патрэбна каманда, калі партыя з вамі? Будзем займацца сваім адвечным клопатам. А які ў нас з вамі цяпер клопат?

СЕЛЯНІН-ІІ. Самі ж бачыце...

АЛЯКСЕЙ СЕВАСЦЯНАВІЧ. Не, вы не так зразумелі мяне, дарагі таварыш. Трывога — гэта адно, а клопат... Вясна, трэба засяваць зямлю. Так што, пагаманілі і хопіць. Пара разыходзіцца ды ў поле ехаць.

СЕЛЯНІН-І. Значыць, не трывожыцца?

АЛЯКСЕЙ СЕВАСЦЯНАВІЧ. Я ж кажу, трывога — гэта адно, а клопат...

СЕЛЯНІН-І. Але ж, дарагі таварышок, я сёння слухаў замежнае радыё...

АЛЯКСЕЙ СЕВАСЦЯНАВІЧ. А навошта слухаеш яго? Спаў бы, як усе добрыя людзі. Мне вось няма калі слухаць замежнае радыё.

**Сяляне вакол смяюцца. Але ж і разыходзіцца пачынаюць ад калодзежа. На месцы застаюцца тры чалавекі — АЛЯКСЕЙ СЕВАСЦЯНАВІЧ, ЭДУАРД ЛЕВАНОВІЧ і яго супруга ЛЮДМІЛА МІХАЙЛАЎНА. Сакратар нарэшце бачыць іх, радасна міне насустрач.**

АЛЯКСЕЙ СЕВАСЦЯНАВІЧ. Вы ціхенька стаіце за спінамі калгаснікаў, а я не бачу. Добры дзень, Эдуард Сямёнавіч.

ЛЕВАНОВІЧ **(падае руку).** А гэта мая жонка, Аляксей Севасцянавіч.

АЛЯКСЕЙ СЕВАСЦЯНАВІЧ **(вітаецца з ёю).** Добры дзень, добры дзень. Я гэта міма праязджаў, бачу — мужыкі тоўпяцца, ну я і спыніўся па звычцы. Паразмаўлялі вось. А як вы тут апынуліся?

ЛЕВАНОВІЧ. Быў у Чарнобылі на атамнай станцыі. Людміла Міхайлаўна тым часам прыехала да маці.

ЛЮДМІЛА МІХАЙЛАЎНА. Прыехала ратаваць.

АЛЯКСЕЙ СЕВАСЦЯНАВІЧ. Ад чаго ратаваць? Жыве сярод людзей. Дарэчы, у гэтай вёсцы ваша маці жыве?

ЛЮДМІЛА МІХАЙЛАЎНА. Не. Мы тут таксама праездам. Маці жыве на беразе ракі.

АЛЯКСЕЙ СЕВАСЦЯНАВІЧ **(хмурыць лоб).** Гэта іншая справа. Але ж ці абавязкова ехаць вам туды? **(Глядзіць на Левановіча.)** Мы можам сюды прывезці вашу маці. Зараз вось пазваню ў раён і яе прывязуць з усім скарбам.

ЛЮДМІЛА МІХАЙЛАЎНА. Дзякуй, але я сама хачу паехаць у вёску. Можа, апошні раз?

АЛЯКСЕЙ СЕВАСЦЯНАВІЧ. Што вы ўсе лямантуеце?!

ЛЕВАНОВІЧ. Няхай едзе. Тым больш, што машына ў нас ёсць. Ды і да вёскі ўжо не дужа далёка.

АЛЯКСЕЙ СЕВАСЦЯНАВІЧ. Як ведае. А вы, Эдуард Сямёнавіч?

ЛЕВАНОВІЧ. Мне хутчэй трэба ў Кіеў. Справы.

АЛЯКСЕЙ СЕВАСЦЯНАВІЧ. Магу машыну даць.

ЛЕВАНОВІЧ. Не трэба, падкінеце да аэрапорта.

АЛЯКСЕЙ СЕВАСЦЯНАВІЧ. Як жадаеце.

**Людміла Міхайлаўна развітваецца. Адыходзіць.**

АЛЯКСЕЙ СЕВАСЦЯНАВІЧ. Што ў Чарнобылі?

ЛЕВАНОВІЧ. Катастрофа.

АЛЯКСЕЙ СЕВАСЦЯНАВІЧ. Што значыць — катастрофа? Аварыя?

ЛЕВАНОВІЧ. Завіце, як хочаце. Але небяспека ад гэтага не змяншаецца.

АЛЯКСЕЙ СЕВАСЦЯНАВІЧ. Ці хутка справяцца з аварыяй?

ЛЕВАНОВІЧ. З самой аварыяй, можа, і хутка, аднак, з вынікамі яе... Думаю, што ніколі.

АЛЯКСЕЙ СЕВАСЦЯНАВІЧ. Як вас разумець?

ЛЕВАНОВІЧ. Вось вы зараз гаварылі людзям пра ёд. Але ж ёд — гэта першае, што выразна выявілася пасля выбуху. За ёдам дадуць аб сабе знаць цэзій, стронцый... А тэрмін распаду гэтых рэчываў — стагоддзі, ва ўсякім выпадку, стронцыю.

АЛЯКСЕЙ СЕВАСЦЯНАВІЧ. Вы не перабольшваеце, Эдуард Сямёнавіч?

ЛЕВАНОВІЧ. Гэта элементарна, Аляксей Севасцянавіч. Пра гэта студэнты ведаюць.

АЛЯКСЕЙ СЕВАСЦЯНАВІЧ. А што цэзій і стронцый у нас выпадалі — гэта ўжо дакладна?

ЛЕВАНОВІЧ. Мяркуючы па тым, на якім паліве працавала станцыя,— можна лічыць, што так. Іншая справа, на колькі далёка разнёс выбух гэтыя страшныя рэчывы. А яшчэ трэба ўлічваць вецер, аблокі. Так што...

АЛЯКСЕЙ СЕВАСЦЯНАВІЧ. А чалавеку? Як тады чалавеку жыць тут?

ЛЕВАНОВІЧ. Нельга.

АЛЯКСЕЙ СЕВАСЦЯНАВІЧ. Выходзіць?..

ЛЕВАНОВІЧ. Самае небяспечнае цяпер падманваць сябе, Аляксей Севасцянавіч.

АЛЯКСЕЙ СЕВАСЦЯНАВІЧ. Да што мы? Я гатовы хоць...

ЛЕВАНОВІЧ. Падманваючы сябе, мы будзем падманваць народ.

АЛЯКСЕЙ СЕВАСЦЯНАВІЧ. Вы асуджаеце, што я гаварыў тут людзям?

ЛЕВАНОВІЧ. Бадзёрасць не заўсёды на карысць справе. Кажуць, што яшчэ не адменены майскія дэманстрацыі?

АЛЯКСЕЙ СЕВАСЦЯНАВІЧ. Не. Ва раіце адмяніць? Але ў сталіцы пра гэта не хочуць і слухаць. Першы сакратар настойвае. Ды і я, па праўдзе кажучы, не разумею...

ЛЕВАНОВІЧ. Не губіце народ, Аляксей Севасцянавіч.

АЛЯКСЕЙ СЕВАСЦЯНАВІЧ. Але ж паніка... Не выведзем народ на вуліцы — пачнецца яшчэ большая паніка. Значыць, сапраўды штосьці страшнае здарылася.

ЛЕВАНОВІЧ. Няхай народ ведае, што яму пагражае. І няхай хутчэй уцякае адсюль. Не супакойвайце і не затрымлівайце. Памагайце выязджаць з гэтай зоны.

АЛЯКСЕЙ СЕВАСЦЯНАВІЧ. Лёгка сказаць — няхай уцякае. Вы ўяўляеце сабе, што тут пачнецца? Страшней, чым у вайну.

ЛЕВАНОВІЧ. Але вораг у народа цяпер страшнейшы, чым у вайну, дарма што нябачны.

АЛЯКСЕЙ СЕВАСЦЯНАВІЧ. А, можа, яшчэ не ўсё так страшна, як вы палохаеце?

ЛЕВАНОВІЧ. Я — вучоны, Аляксей Севасцянавіч. Людзям трэба сказаць праўду пра чарнобыльскую катастрофу.

АЛЯКСЕЙ СЕВАСЦЯНАВІЧ. Ну, вы таксама, Эдуард Сямёнавіч! Не ўсякая праўда на карысць народу. Ды і не ўсё ад нас тут залежыць. Самі ведаеце. Ёсць Масква, Кіеў, Мінск... Самае галоўнае цяпер — не дапусціць панікі. Разабрацца ва ўсім паступова, каб прыняць правільнае рашэнне. А вы — праўду.

ЛЕВАНОВІЧ. Я вам сказаў: пашкадуйце народ, Аляксей Севасцянавіч. **(Хоча адыходзіць ад калодзежа.)**

АЛЯКСЕЙ СЕВАСЦЯНАВІЧ. Куды ж вы? Я падвязу. А дагаворым у машыне. **(І ўжо на хаду.)** Урэшце, па Чарнобылі працуе ўрадавая камісія. Яна ж нешта пэўнае скажа.

**На слупе ў вёсцы гаворыць радыё: «На Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі працягваюцца работы па ліквідацыі вынікаў узнікшай аварыі. У выніку прынятых мер за мінулыя суткі выдзяленне радыеактыўных рэчываў знізілася. Узроўні радыяцыі ў раёне АЭС і ў пасёлку станцыі знізіліся... работа прадпрыемстваў, калгасаў, саўгасаў і ўстаноў ідзе нармальна».**

ЛЕВАНОВІЧ **(паслухаўшы).** Дзікунства!..

## Карціна V

**Зноў назіральная вышка ў падраздзяленні «кліматычнай вайны». Тыя ж два КАПІТАНЫ і КАМАНДЗІР ПАДРАЗДЗЯЛЕННЯ.**

КАПІТАН-ІІ. Няўжо гэтыя аблокі каму-небудзь пагражаюць? Ну і няхай плывуць сабе над усёй краінай на Ледавіты акіян!

КАМАНДЗІР ПАДРАЗДЗЯЛЕННЯ. Загадана рассеяць.

КАПІТАН-І. Няхай бы градабойнымі зеніткамі рассейвалі.

КАМАНДЗІР ПАДРАЗДЗЯЛЕННЯ. Загадана пасыпаць больш дзейсным сродкам з самалёта.

КАПІТАН-ІІ. Значыць, аблокі пагражаюць Маскве? Так я думаю?

КАМАНДЗІР ПАДРАЗДЗЯЛЕННЯ. Пры чым тут Масква! Загадана спыніць прасоўванне іх на ўсход, і мы павінны спыніць. Мы ваенныя людзі, дарагія мае капітаны.

**Колькі часу вайскоўцы сядзяць моўчкі. Тады зноў пачынаюць размаўляць.**

КАПІТАН-І. Мяркуючы па метэакарце, аблокі рухаюцца з Чарнобыля.

КАПІТАН-ІІ. Хутчэй, што так...

КАПІТАН-І. Значыць, яны радыяцыйныя? І Андрэю з Іванам зноў давядзецца ляцець у гэтай заразе?

КАПІТАН-ІІ. Але ж... Таварыш палкоўнік!..

КАМАНДЗІР ПАДРАЗДЗЯЛЕННЯ. Ды чую я!..

КАПІТАН-ІІ. І што вы на гэта скажаце, дазволю спытаць?

КАМАНДЗІР ПАДРАЗДЗЯЛЕННЯ. Загад, таварышы капітаны, загад! А то можна падумаць, што вы не тую прафесію сабе ў жыцці выбралі?

**Пстрыкае мікрафон на стале: «Зорка, я — Коршак, Зорка, я — Коршак. Чуеце мяне?»**

КАМАНДЗІР ПАДРАЗДЗЯЛЕННЯ. Так, мы чуем вас, Коршак. Дзе вы знаходзіцеся, старшы лейтэнант Левановіч?

**Голас АНДРЭЯ: На ўсходняй кромцы аблокаў. Над Тулай неба ўжо чыстае. Затое на захад, над Беларуссю, зямля заслонена спрэс.**

КАМАНДЗІР ПАДРАЗДЗЯЛЕННЯ. Коршак, Коршак, заданне выконваць гатовы?

**Голас АНДРЭЯ. Так точна, таварыш палкоўнік!**

ПАЛКОЎНІК. Выдатна, старшы лейтэнант. Абстаноўка з часу вашага вылету не змянілася. Мы вам жадаем поспеху.

**Голас АНДРЭЯ. Сувязь спыняю.**

**Пстрыкае мікрафон. На вышцы настае цішыня.**

КАПІТАН-ІІ. Трагічная зямля. Ці мала ёй дасталося ў гісторыі!.. А цяпер — Чарнобыль зацяружвае атрутай.

КАПІТАН-І. Не зайздрошчу я Левановічу.

КАМАНДЗІР ПАДРАЗДЗЯЛЕННЯ. Чаму ж не выручыў, сам не паляцеў?

**Зноў пстрыкае мікрафон: «Зорка, Зорка, я — Сокал. Адкажыце!»**

КАМАНДЗІР ПАДРАЗДЗЯЛЕННЯ. Дзе вы знаходзіцеся, Сокал?

**Голас ЛЕТЧЫКА. Выйшаў на край аблокаў з боку Бранска.**

КАМАНДЗІР ПАДРАЗДЗЯЛЕННЯ. Атакуйце аблокі!

**Голас ЛЕТЧЫКА. Ёсць атакаваць аблокі!**

КАМАНДЗІР ПАДРАЗДЗЯЛЕННЯ **(шчоўкае выключальнікам).** Усіх не выручыш, капітан. Да таго ж, мы на вайсковай службе. І кожны займае сваё месца. Сёння старшы лейтэнант Левановіч і капітан Аляксееў выконваюць баявую задачу, я паўтараю — баявую, а заўтра настане чарга іншым.

**Канец першай дзеі.**

